19 жніўня 2016 | № 31 (496)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**АЭС больш небяспечная, чым бомба**

Стар. 11

**5 НА ВЫБАРЫ — ДЗЕЛЯ БЕЛАРУШЧЫНЫ**

Кіраўніцтва рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» ідзе на парламенцкія выбары

**6 КРЫЗІС І НОВАЯ СПАЖЫВЕЦКАЯ МАДЭЛЬ**

Зараз людзі вымушаныя больш сур'ёзна перакройваць сямейны бюджэт. У выніку ён робіцца ўсё больш падобны на бюджэт, які мы мелі ў 90-х гадах. Прычым, з характэрнымі для таго часу перакосамі



**7–10**



**ЭКАНАМІЧНАЯ БЕЛАРУСЬ**

**14–15 ЖНІВЕНЬСКІ ПУТЧ І ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ**

Першай рашуча выступіла супраць ДНКС парламенцкая апазіцыя БНФ. Яна адразу прыняла заяву з асуджэннем ДКНС, расцэньваючы дзеянні арганізатараў гэтага камітэта як спробу дзяржаўнага перавароту

# Маркеры крызісу

**«Варушыцца», «круціцца», «выкручвацца» — словы, якія сведчыць пра канец «беларускага эканамічнага цуда»**



Сяргей ПУЛЬША

«Беларускі эканамічны цуд» — вельмі хутка гэтае словазлучэнне перайшло ў шэраг тых, якія ўзгадваюць альбо з настальгіяй, альбо са здзекам. Можа быць, за гэтым прыйдзе і асэнсаванне неабходнасці рэформаў.

Пра гэта ўяўна сведчыць змена лексікі на самым вышэйшым узроўні. «У Беларусі толькі лянівы можа не зарабіць. Мы што, ваюем, вайна ў нас ідзе ці яшчэ нешта? Трэба проста трохі варушыцца», — сказаў Лукашэнка жыхарам Маларыты падчас сваёй паездкі ў Брэсцкую вобласць.

«Варушыцца», «круціцца», «выкручвацца» — гэта словы з лексікону «ліхіх 90-х». Тады ўсе «круціліся» і «варушыліся», каб неяк пракарміць сябе і свае сем'і. Гэта адназначныя маркеры эканамічнага крызісу. І тое, што іх выдае кіраўнік дзяржавы, выдатна сведчыць пра канец «беларускага эканамічнага цуда».

Фактычна, яго словы азначаюць, што на адной працы грошай для нармальнага жыцця не заробіш. Прыйдзецца «паварушыцца» дадаткова. То бок, персанальна кіраўнік дзяржавы штурхае беларусаў на пошукі падпрацовак, другой працы і іншага. Сваімі словамі ён перакрывае нашумелы выступ міністра працы і сацыяльнай абароны Марыяны Шчоткінай, якая год таму заявіла, што трэба «круціцца». «Амаль 93% беларусаў працуюць толькі на адной працы, а гэта і мужчыны. Але калі мама займаецца дома дзецьмі, дык хай тата «пакруціцца», — казала тады Шчоткіна, што выклікала абурэнне ў грамадстве.

Што вынікае з лексікону высокіх чыноўнікаў? Найперш, у Маларыце кіраўнік дзяржавы дэ-факта прызнаў важнасць і ўнёсак «шэрага сектару» ў эканоміку краіны. Ускосна ён гэта пацвердзіў, калі патлумачыў, каго дзяржава будзе падтрымліваць. Гэта шматдзетныя сем'і, бо «дэмаграфічная бяспека — пытанне нумар адзін», і вайскоўцы, бо яны не маюць права, «не могуць зарабіць дзесьці ўбаку».

А што такое падпрацоўка («заробак ўбаку») у беларускіх умовах? Зазвычай, гэта той самы «шэры сектар». Калі на асноўнай працы ў чалавека ёсць, як кажуць зараз, «сацпакет», выплаты падаткаў, афіцыйнае афармленне на працу, то «падпрацоўка», як правіла, усяго гэтага пазбаўленая. Гэта і ёсць шэрая зона эканомікі.

«Шэры сектар» сплачвае дзяржаве мінімальныя падаткі альбо не плаціць іх увогуле. Ён не дае працоўным сацыяльных гарантый. Але дае дзяржаве рост абарачальнасці, прырост ВУП, стварае працоўныя месцы і гэтак далей. Канешне, дзяржава у нечым страчвае, але нешта і атрымлівае. Па мінімуме — хаця б памяншэнне ціску на рынак працы.

У закліках кіраўніка дзяржавы «варушыцца» можна пачуць тэзу і пра працоўную мабільнасць. Згодна з ягоным заклікам, зараз кожны, хто працуе ў Расіі, выязджае туды на будоўлі ці сезонныя працы, можа сказаць: «варушуся». Праўда, што рабіць у плане «варушэння» з дэкрэтам пра лайдацтва, незразумела. Яны ж не лайдакі — проста «варушацца»!

Яшчэ адзін заклік мабільнасці — гэта перанавучанне і павышэнне кваліфікацыі. Згодна са словамі кіраўніка дзяржавы, беларусы, можа быць, пачнуць шукаць новыя месцы працы і будуць перавучвацца, напрыклад, у тых жа IT-спецыялістаў, якія зарабляюць шмат.




**Цікава, ці вернецца слова «дэфіцыт» у нашу лексіку?**

Балазе, працы ў гэтай сферы хапае, а перанасычанасці рынку IT-спецыялістамі, насуперак прагнозам, не ўзнікае, бо нашы праграмісты запатрабаваныя, найперш, па-за межамі краіны, на ўмовах кантрактаў з заходнімі і ўсходнімі фірмамі.

Праўда, калі ўсе пачнуць «варушыцца» ў гэтым кірунку, наша цалкам саўковая прамысловасць рызыкуе страціць пралетарыят. Няма каму будзе працаваць на «флагманах беларускай эканомікі» і «прамысловых гігантах». Знікне адзін з галоўных ідэалагічных складнікаў беларускай мадэлі развіцця. А Аляксандру Рыгоравічу давядзецца пачынаць усё ад першай кропкі: фразы 1994-га года «я запушчу заводы».

Дарэчы, і падарунак, які атрымаў кіраўнік дзяржавы ад маларыцкага СУП «Савушкін», яскрава разглядаецца праз гэтую прызму крызісу. Як вядома, Лукашэнку падаравалі карову сусветнай высокапрадукцыйнай пароды «Галштынская». Гэта самая папулярная парода малочнай жывёлы ў свеце, і галоўнае, чым адрозніваецца яна ад іншых рагуляў, — добры ўдой. У дзень карова дае каля 36 кг малака.

Якая краіна — такія і падарункі. У тыя ж «ліхія 90-я» шмат людзей больш, чым працы, надавала ўвагі ўласным падсобным гаспадаркам, лецішчам ды вёскам: каб узімку быць з агуркамі, бульбай і гароднінай. А некаторыя тады ўпершыню заводзілі свіней, курэй і іншую худобу. Гэта было адным з натуральных спосабаў выжывання ў крызіс.

Зараз такі падарунак можна ўспрыняць як намёк на пераход беларускай эканомікі да падсобнай і натуральнай гаспадаркі. Маўляў, у кіраўніка дзяржавы малако ніколі не скончыцца — нават калі яно знікне з крамаў, як часам ужо знікала.

Цікава, ці вернецца яшчэ і слова «дэфіцыт» у нашу лексіку? Усё да таго коціцца.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### СМАРГОНЬ. Вынесены папярэджанні двум дэмакратычным кандыдатам

**17 жніўня адбылося пасяджэнне Смаргонскай акруговай камісіі.**

Трэба адзначыць, што яно было праведзена напаўкулуарна. Так, паводле абвесткі на выбарчай старонцы сайта Смаргонскага райвыканкама, на парадку дня было толькі адно пытанне: аб рэгістрацыі прадстаўніка кандыдата ў дэпутаты па фінансавых пытаннях — яно тычылася праўладнага кандыдата Адама Кавалька.

На самім жа пасяджэнні было абвешчана, што на парадку дня таксама пытанне аб вынясенні папярэджання кандыдатам ад Беларускай партыі «Зялёныя» Зміцеру Кучуку і Партыі БНФ Івану Лагвіновічу. Прычына была названа наступная: паводле артыкула 77 Выбарчага кодэкса, кандыдаты мусяць быць вызваленыя на час выбарчай кампаніі ад працы, але гэтыя кандыдаты не прадставілі ў камісію ніякіх дакументаў аб выкананні такога патрабавання.

Як паведаміў Зміцер Кучук, яму яшчэ да пасяджэння тэлефанавалі з камісіі наконт даведкі з месца працы, і ён абяцаў яе хутка даслаць. А вось вынесенае папярэджанне за яе непрадастаўленне з'явілася нечаканасцю. Ён яго лічыць незаконным, бо ў артыкуле 77 Выбарчага кодэкса няма патрабавання аб прадстаўленні даведак у выбарчую камісію і тэрмінаў яе падачы. Таму Зміцер Кучук мае намер абскардзіць папярэджанне.

Назіральнік Алесь Дзергачоў паведаміў, што кандыдат ад АГП Мікалай Уласевіч выказаў нязгоду з аб'ёмам біяграфічных дадзеных, падрыхтаваных акруговай выбарчай камісіяй да друку, і даслаў у гэты орган сваю рэдакцыю дакумента. На пасяджэнні старшыня камісіі паведаміла, што Мікалаю Уласевічу дадзены адмоўны адказ, бо ў яговым варыянце ўтрымліваецца ацэнка сітуацыі са станам карупцыі ў Астравецкім раёне, што не адносіцца да біяграфіі кандыдата.

Цікава, што на час пасяджэння адказ Уласевічу ўжо быў дадзены, але адмова не грунтавалася на ацэнцы карупцыі кандыдатам, а на вялікім аб'ёме прадстаўленых біяграфічных дадзеных.

Між тым, за праўладнага кандыдата Адама Кавалько пачалася актыўная праца: у акруговую камісію пададзены спіс давераных асоб у максімальна дазволеным складзе, адчынены перадвыбарчы рахунак, прызначаны прадстаўнік па фінансавых пытаннях і замоўлена некалькі месцаў для правядзення сустрэч з выбаршчыкамі.

**«Праваабаронцы за свабодныя выбары»**

### НАВАПОЛАЦК. Судзяць сына блогера Алега Жалнова

**У судзе горада Наваполацка пачаўся разгляд крымінальнай справы, заведзенай на сына бабруйскага блогера Алега Жалнова — Аляксея Мілюкова (Жалнова), які адбывае трохгадовае пакаранне ў Наваполацкай папраўчай установе адкрытага тыпу №15.**

Аляксея перавялі сюды летась у жніўні з гомельскай ПУАТ-22 (Папраўчая ўстанова адкрытага тыпу). Аляксея вінавацяць па артыкуле 415 Крымінальнага кодэкса РБ «Ухіленне ад адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі», якое выявілася ў парушэннях рэжыму ўтрымання.

Усяго падчас адбыцця пакарання ў папраўчых калоніях адкрытага тыпу з ліпеня 2014 года да нядаўняга часу Аляксей Мілюкоў (Жалноў) атрымаў 8 спагнанняў. Бацька Аляксея лічыць, што многія спагнанні выносіліся па неістотных прычынах, фармальна, з мэтай паўплываць на бацьку, які выкрываў супрацоўнікаў бабруйскай міліцыі, што парушаюць закон і зміяшчаў у сеціве пра гэта відэаролікі.

Нагадаем, у ліпені 2014 года Аляксей Жалноў быў асуджаны на тры гады «хіміі» і атрымаў штраф — 50 мільёнаў рублёў. Суд прызнаў яго вінаватым у нанясенні маральнай і фізічнай шкоды супрацоўніку ДАІ.

За ходам судовага працэсу назіраюць прадстаўнікі Праваабарончага цэнтра «Вясна». Суддзя Пётр Леўчанка абвясціў пра пачатак судовага пасяджэння. У залі — прадстаўнік абвінавачвання, адвакат, прадстаўнікі дэмакратычнай супольнасці Наваполацка, журналісты. Аляксея Мілюкова трымаюць пад вартай.

Аляксей Мілюкоў адразу заявіў некалькі хадайніцтваў. Адно з іх — і найбольш істотнае — допусціць у якасці абаронцы па справе ў суд свайго бацьку, Алега Жалнова. Суд з гэтым не пагадзіўся. Тады Аляксей Мілюкоў адмовіўся ад паслуг прызначанага адваката і папрасіў час, каб заключыць дамову з адвакатам, якому ён давярае.

Яшчэ адно хадайніцтва тычылася дазволу на вядзенне відэа і аўдыёзапісу. У відэазапісе было адмоўлена, а аўдыёзапіс сваякам абвінавачанага можна весці і без рашэння суддзі. Аляксей Мілюкоў задаў пытанне: «Як гэты запіс суд зможа далучыць да матэрыялаў справы і як яго параўнаць з пратаколам пасяджэння, які вядзе сакратар суда?». Суддзя паабяцаў адказаць на гэтае пытанне на наступным пасяджэнні, якое прызначанае на 23 жніўня.

**spring96.org**

# У Бандарэнкі пагаршаецца сітуацыя

Міхаіл ПАСТУХОЎ

**Чарговы ліст прыйшоў ад вязня сумлення Андрэя Бандарэнкі. Ён піша, што ў апошні час кантроль за яго паводзінамі ўзмацніўся. Кожны дзень да яго прад'яўляюцца ўсё новыя прэтэнзіі з боку турэмных наглядальнікаў: ці ён не так сядзіць у камеры, ці ім не бачны ягоны твар.**

Бандарэнка адзначае, што пачалася нейкая істэрыя з нагоды яго спробаў займацца фізкультурай. Свае практыкаванні ён робіць у працоўныя перапынкі, за кошт часу, адведзенага на прагулкі, і ў перыяд, калі астатнія зняволеныя глядзяць тэлепраграмы (яму глядзець тэлевізар не дазваляецца з-за прымененага «строгага рэжыму»). Тым не менш, заняткі фізкультурай спыняюцца на падставе «не паложана». Дарэчы, мыцца ў камеры ў іншы час, акрамя асабістага часу, таксама не дазваляецца. І гэта было ў трыццаціградусную спякоту, калі камера больш нагадвае саўну.

З улікам гэтых прыкметаў залішняй строгасці, вязень магілёўскай турмы мяркуе, што «сітуацыя працягвае планамерна пагаршацца». Можна выказаць версію, чаму. Да заканчэння тэрміну засталося крыху больш за паўгода (да 31 сакавіка 2017 года). Зацікаўленыя асобы, мабыць, задумаліся над далейшым лёсам праваабаронцы Андрэя Бандарэнкі. У якасці варыянту свабодзе застаецца сумнавядомы артыкул 411 КК («Злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы»). Для яго прымянення трэба «арганізаваць» яшчэ некалькі спагнанняў, і тады новы «тэрмін» патэнцыйна магчымы. Вядома, хацелася б такі варыянт выключыць.

У той жа час 16 жніўня адбылося пасяджэнне Форуму «Свабоду палітвязням!». У ім узялі ўдзел вядомыя палітыкі, праваабаронцы, грамадскія актывісты, журналісты, у тым ліку Павел Севярынец, Аляксей Янукевіч, Аляксандр Дабравольскі, Мікалай Статкевіч, Мікалай Аўтуховіч, Алег Волчак, Раіса Міхайлоўская, Валеры Шчукін, Мікалай Дрозд, Вольга Нікалайчык, Ганна Шапуцька і іншыя. На пасяджэнне з Кіраўскага раёна прыехаў бацька Андрэя Бандарэнкі — Валерый Рыгоравіч. Падчас выступу ён пачаў расказваць пра суровы побыт свайго сына і... заплакаў ад перажыванняў.

У рэзалюцыі, прынятай удзельнікамі Форуму «Свабоду палітвязням!», змешчаны шэраг патрабаванняў: у прыватнасці, спыніць палітычны пераслед, гвалт і штрафы, а таксама рэабілітаваць усіх палітвязняў. Грунтуючыся на інфармацыі ўдзельнікаў, на Форуме быў вызначаны прыкладны спіс новых палітвязняў у Беларусі. У ім — 16 прозвішчаў, у тым ліку Андрэй Бандарэнка, Эдуард Пальчыс, Уладзімір Кондрусь.

# Міхаіл Жамчужны накіраваў наглядную скаргу ў Вярхоўны суд

**Міхаіл Жамчужны 1 жніўня накіраваў на імя намесніка старшыні Вярхоўнага суда наглядную скаргу на прысуд.**

У скарзе адзначана, што «матывуючы ў прысудзе высновы пра маю вінаватасць, суд як на адзін з доказаў спасляўся на выніку правядзення ў адносінах да мяне АВМ (аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў), якія праводзіліся ў межах «працягваемага аператыўнага эксперымента», і якія маюцца ў матэрыялах справы. Разам з тым, у арт. 2, 11 Закона «Аб аператыўна-вышуковай дзейнасці» ад 09.07.1999 (які дзейнічаў у перыяд правядзення ў адносінах да мяне АВМ) паняцце "працягваемага аператыўнага эксперымента" не прадугледжана».

Жамчужны ўказвае, што ў адносінах да яго меў месца не «працягваемы» аператыўны эксперымент, а паўторны, а крымінальная справа супраць яго была распачата больш чым праз год пасля здзяйснення дзеянняў, які леглі ў аснову абвінаваўчага прысуду. «Такім чынам, праваахоўнымі органамі былі штучна створаны ўмовы, якія правакавалі мяне на здзяйсненне аналагічных дзеянняў з мэтай далейшага стварэння доказаў здзяйснення больш цяжкіх злачынстваў».

Нагадаем, што 23 кастрычніка судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда прызначыла Жамчужнаму пакаранне — 6,5 гадоў пазбаўлення волі. Яго прызналі вінаватым у наўмысным выдаванні звестак, што складаюць службовую таямніцу, і ў незаконным набыцці сродкаў для сакрэтнага атрымання інфармацыі, што складае службовую таямніцу. Суд палічыў, што Жамчужны на працягу 2013–2014 гадоў са згоды супрацоўніка органаў унутраных спраў атрымліваў службовыя дакументы з інфармацыяй, якая, на думку падсуднага, уяўляла грамадскі інтарэс: звесткі аб узбуджаных крымінальных справах у дачыненні да службовых асоб, зводка за 2012 і 2013 аб здарэннях з удзелам супрацоўнікаў праваахоўных органаў, спецданесенне па факце раптоўнай смерці грамадзяніна Кудзелкі ў ІЧУ УУС Віцебскага аблвыканкама, і інш. Дакументы перадаваліся Жамчужным у праваабарончую ўстанову «Платформа».

Беларускімі праваабаронцамі Міхаіл Жамчужны прызнаны палітычным зняволеным.

Жамчужны падрыхтаваў наглядную скаргу ўжо болей чым паўгода таму, але ягоныя тры заявы на аплату судовай пошліны не задавальняліся супрацоўнікамі калоніі ў Навасадах, дзе зараз адбывае пакаранне вязень. Адмовы матываваліся тым, што ў калоніі падача скаргі прадугледжана толькі праз год пасля вынясення прысуду. Пасля апублікавання гэтай інфармацыі праводзілася праверка адносна адмоў зняволенаму ў магчымасці аплаціць судовую пошліну. Вынікі праверкі прадказальна не выявілі парушэнняў, а тры заявы Жамчужнага зніклі.

**spring96.org**

# Падпішыся супраць «ветлівых чалавечкаў»!

**У сетцы дзіцячых крамаў «Буслік» з'явіліся няпростыя «салдацікі». Пад выглядам дзіцячай цацкі на паліцах стаяць «ветлівыя людзі», якія сталі сімвалам расійскай агрэсіі ва Украіне.**

Беларускі журналіст Глеб Лабадзенка прапануе не мірыцца з гэтым і заклікаў на сваёй старонцы ў фэйсбуку пісаць кіраўніцтву крамы лісты.

Сам Глеб Лабадзенка звярнуўся да кіраўніцтва «Бусліка» з такім лістом:

«Добры дзень! Наша сям'я з'яўляецца сталымі кліентамі крамаў «Буслік». Днямі мы пабачылі, што ў вас з'явілася ў продажы зборная мадэль «Современная российская пехота «Вежливые люди» фірмы «Звезда» (магу даслаць фота). Калі вы не прыбераце з продажу зборныя мадэлі тэрарыстаў і забойцаў, то я звярнуся ў Міністэрства гандлю, а таксама Камітэт дзяржаўнай бяспекі з патрабаваннем прыцягнуць вас да адказнасці за падтрымку сепаратызму і тэрарызму. Чакаю адказу ў самы кароткі тэрмін».

Гэты ліст кожны можа адаптаваць пад сябе і даслаць у «Буслік». Кантакты можна знайсці на афіцыйным сайце http://buslik.by/contacts/.

Таксама можна пакінуць запіс у Кнізе заўваг і прапаноў непасрэдна ў краме — адказ вам павінны даць на працягу 14 дзён.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Ані дня без справы

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Дзяржава вырашае свае фінансавыя праблемы вельмі арыгінальным чынам. Прычым, «грошавыбівальны» каток беларускіх сілавікоў не здолеў спыніць нават сам Рыгоравіч.**



Фота www.slon.ru

Мы ўжо пісалі пра тое, што ў краіне арыштоўваюць буйных бізнесоўцаў, а потым выпускаюць іх пасля «сплаты прычыненай шкоды». Прынамсі, кажуць, так зараз робіць Юрый Чыж, у якога сума шкоды — аж 12 мільёнаў долараў. Так зрабіў IT-бізнесовец Віктар Пракапеня, які аддаў 12,6 мільярда недэнамінаваных рублёў — каля 700 тысяч долараў. Падаецца, праваахоўнікі вырашылі так папаўняць бюджэт.

Некалькі тыдняў банкаўскі сектар краіны калоціць пасля затрымання выканаўчага дырэктара «Беларусбанка» Анатоля Багавіка і гендырэктара Банкаўскага працэсінгавага цэнтра Генадзя Зубарава — нібыта праз «абнаяўкі і адкаты». А на гэтым тыдні праваахоўныя органы Беларусі зацікавіліся дзейнасцю кіраўніцтва буйной і адной з найстарэйшых IT-кампаній Беларусі — IBA Group. Як паведамілі TUT.BY некалькі крыніц, у поле зроку сілавікоў трапілі старшыня праўлення IBA Group, гендырэктар IBA Minsk Сяргей Ляўцееў і сябра праўлення, першы намеснік старшыні праўлення IBA Group, дырэктар па распрацоўцы ПЗ, гендырэктар IBA IT Park Сяргей Акуліч.

IBA Group — адзін з найбуйнейшых сістэмных інтэгратараў, распрацоўшчыкаў, вытворцаў і пастаўшчыкоў інфармацыйных тэхналогій у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. Беларускі офіс холдынгу з'яўляецца ключавым для групы і ўваходзіць у топ-3 кампаній Парку высокіх тэхналогій па аб'ёме рэалізацыі, экспарту, пастаўшчыкоў IT-рашэнняў на беларускі рынак і па колькасці кампаній-рэзідэнтаў. У чэрвені IBA адкрыла навукова-вытворчы кластар на тэрыторыі ПВТ коштам каля 40 мільёнаў долараў.

Зразумела, такі смачны кавалак не мог прайсці па-за ўвагай праваахоўнікаў. Тым больш, што, як высветлілася, менавіта IBA Group на працягу многіх гадоў аказвае паслугі па сістэмна-тэхнічнай падтрымцы і рамонце абсталявання праграмна-тэхнічнага комплексу цэнтралізаванай аўтаматызаванай банкаўскай сістэмы ААТ «АСБ Беларусбанк». Кіраўніцтва кампаніі атрымала больш за пяць лістоў з падзякай за супрацоўніцтва за подпісам Анатоля Багавіка. Адчуваеце тэндэнцыю?

Ведаў ці не ведаў Аляксандр Лукашэнка пра гэтыя затрыманні? Невядома. Тым не менш, 15 жніўня, наведваючы Маларыцкі раён, ён паспрабаваў збіць імпэт сярод сілавікоў. «Міліцыя, КДБ, пракуроры — яны ўсе павінны круціцца вакол кіраўніка і яму дапамагаць, — цытуе словы Лукашэнкі БелТА. — Я хачу, каб гэта ўся краіна пачула. Каб больш не было скаргаў, што на кагосьці наехаў міліцыянт, КДБ, на каго пракурор накаціў. Усе яны выдатна разумеюць, што мы жывём ад таго ж калгасу і прамысловага прадпрыемства». Лукашэнка падкрэсліў, што «галоўнае — гэта эканоміка», і на яе «ўсе павінны працаваць».

Варта зазначыць, што аднойчы Аляксандр Рыгоравіч ужо праводзіў нараду з нагоды таго, што сілавікі паралізуюць працу эканомікі. Тады да кіраўніка дзяржавы па абарону ад праваахоўнікаў звярнуўся дырэктар Мінскага трактарнага завода Фёдар Дамаценка. Былы памочнік прэзідэнта, дарэчы.

«Хачу ўвесці ў практыку сваёй працы, чаму вас і запрасілі, разгляд істотных зваротаў на імя кіраўніка дзяржавы — скаргаў і гэтак далей, якія датычацца буйных дзяржаўных пытанняў і працоўных калектываў. Такі зварот я атрымаў ад генеральнага дырэктара МТЗ Фёдара Дамаценкі. Ён у нядаўнім мінулым памочнік прэзідэнта, я накіраваў яго туды для таго, каб быў наведзены рэвалюцыйны парадак. МТЗ — гэта флагман нашай індустрыі, наш брэнд, імідж дзяржавы, і там павінен быць парадак. Я запрасіў сюды сілавікоў для таго, каб разабрацца, у чым супрацьдзеянне ў працы МТЗ з боку пракуратуры, МУС, КДБ, КДК?» — заявіў тады Лукашэнка.

І, выслухаўшы бакі, заключыў: «Крый Божа, каб кантрольныя і праваахоўныя органы дзесьці камусьці перашкаджалі працаваць насуперак інтарэсам дзяржавы».

Што забаўнага ў гэтай сітуацыі? Найперш, тое, што пад раздачу трапляюць зусім лаяльныя, і нават «сябры» існай улады. І раптам бац — з іх і выбіваюць грошы. Гэткі «рэкет на дзяржаўным узроўні».

А вось з апазіцыянераў, нават пры ўсім жаданні, нешта стрэсці не атрымліваецца. Напрыклад, Смалявіцкі выканкам марыў спагнаць са знакамітай «сцяганосцы» 69-гадовай Ніны Багінскай штрафы за ўдзел у вулічных акцыях на агульную суму 7000 рублёў і выставілі на аўкцыён яе лецішча.

І што вы думаеце? Аўкцыён не адбыўся — не было пакупнікоў. Думаю, што не будзе іх ані ў другі, ані ў трэці раз. Таму што патыхае ад такой пакупкі на ўсю краіну.

Яшчэ цікава тое, што адначасна з выбіваннем грошай з буйных бізнесоўцаў Нацбанк абвясціў пра зніжэнне стаўкі рэфінансавання з 20 да 18 працэнтаў. «Зніжэнне працэнтных ставак палепшыць здольнасць нефінансавых арганізацый па выкананні крэдытных абавязацельстваў перад банкамі, што зменшыць рызыкі для фінансавай стабільнасці», — растлумачылі БелТА ў Нацбанку.

Што гэта азначае фактычна? Тое, што патаннеюць крэдыты, іх стане браць і аддаваць лягчэй. А якія ў нас «нефінансавыя арганізацыі»? Ды ўся датуемая прамысловасць і сельская гаспадарка. Атрымліваецца, такім арыгінальным чынам мы зноў «спісваем пазыкі», хоць і выграсаем грошы з паспяховага бізнесу. А значыць, бізнесмены за кратамі разлічваюцца за пазыкі стратных прадпрыемстваў?

Лагічна ўзнікае пытанне: хто наступны ў чарзе «на пасадку»? Я б напружыўся на месцы «Wargaming». Тым больш, што нядаўна яны ўступілі ў супрацоўніцтва з «Белавія», размаляваўшы ў колер гульні World of Tanks адзін з самалётаў.

Наконт гэтага ў інтэрнэце было шмат спрэчак. Камусьці дызайн самалёта падабаўся, камусьці не. Але нядаўна выказаўся адзін з вядучых расійскіх адмыслоўцаў, Арцёмій Лебядзеў. «Пакуль усе трымаюць беларусаў за калгаснікаў, яны пакрысе захопліваюць свет. Малайцы, чо», — напісаў ён пра самалёт.

Так што, калі праваахоўнікі прыйдуць у «Белавія» — гэта сігнал «Варгеймерам» зматваць вуды з краіны. Шкада, калі так і будзе.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Мікалай Дзядок

**Былы палітвязень падрыхтаваў скаргу супраць Беларусі ў Камітэт па правах чалавека ААН. Індывідуальнае паведамленне накіравана ў Жэневу.**



У скарзе абгрунтаваныя парушэнні правоў Дзядка падчас папярэдняга следства і судовага разбору па двух крымінальных справах: па абвінавачванні яго ў злосным хуліганстве і ў непадпарадкаванні адміністрацыі Шклоўскай калоніі падчас адбыцця пакарання. Мікалай падкрэслівае, што Беларусь парушае правы, прадугледжаныя Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах: права на свабоду і асабістую недатыкальнасць асобы, права не падвяргацца катаванням, жорсткаму, бесчалавечнаму абыходжанню, права на справядлівы суд.

Дзядок пералічвае шэраг артыкулаў МПГПП, якія не выканала дзяржава, і просіць КПЧ ААН рэкамендаваць Беларусі ліквідаваць наступствы парушэнняў, спыніць палітычны пераслед, цалкам рэабілітаваць яго і выплаціць грашовую кампенсацыю.

3 верасня 2010 года Дзядок быў затрыманы па падазрэнні ва ўдзеле ў несанкцыянаваных акцыях пратэсту анархістаў. 27 мая 2011 года ён быў асуджаны на 4,5 гады пазбаўлення волі. Падчас адбыцця пакарання Дзядок быў змешчаны на паўгода ў памяшканне камернага тыпу, потым яго перавялі ў турму №4 Магілёва, дзе яго зноў асудзілі на 1 год пазбаўлення волі. 22 жніўня 2015 года ён быў памілаваны (хоць прашэння аб памілаванні не пісаў). Праваабарончыя арганізацыі прызналі Дзядка палітвязнем.

## Эдуард Пальчыс

**Крымінальная справа ў дачыненні да заснавальніка сайта 1863х. перададзена ў Мінскі гарадскі суд.**



Абвінавачванне Пальчысу было прад'яўлена ў чэрвені. Перад гэтым Эдуард адмовіўся ад паслуг абаронцаў, якія прадстаўлялі яго інтарэсы, напісаўшы адпаведную заяву ў іх прысутнасці. Пасля папрасіў аб прадастаўленні яму дзяржаўнага абаронцы.

Нагадаем, на сайце Пальчыса 1863x.com публікаваліся матэрыялы з крытыкай беларускіх і расійскіх уладаў. У лістападзе 2015 года ён паведаміў аб затрыманні КДБ і прымусовым знаходжанні ў бальніцах для вар'ятаў. Пасля гэтага ён з'ехаў ва Украіну. У студзені 2016 года яго арыштавалі ў Расіі, а ў канцы мая экстрадавалі ў Беларусь.

Апазіцыя мае намер дамагчыся прызнання Пальчыса палітвязням, нягледзячы на тое, што сам ён праз адваката заявіў, што не хоча ім быць. Міжнародная праваабарончая арганізацыя «Рэпарцёры без межаў» заклікае да большай празрыстасці ў справе Пальчыса і яго вызваленні з-пад варты.

## Уладзіслаў Ганчароў

**Алімпійскі чэмпіён выставіць на аўкцыён падораны яму арганізатарамі Алімпіяды тэлефон — новенькі Samsung.**



«Гэта эксклюзіўная лімітаваная алімпійская серыя, ды яшчэ і з незвычайным начыннем — на ім ужо ёсць шмат маіх фатаграфій з алімпійскага Рыа, прычым не толькі з выступленняў, — падымае каштоўнасць лоту Ганчароў. — У адраснай кнізе будзе мой асабісты кантакт, па якім пакупнік заўсёды са мной зможа звязацца».

Ганчароў прадае тэлефон не проста так — атрыманыя грошы ён аддасць роднай віцебскай СДЮШАР №1 — альма-матэр многіх беларускіх батутыстаў. «Таленавітых дзяцей у маёй СДЮШАР хапае. Думаю, гэтыя грошы ім вельмі дапамогуць. Яны могуць пайсці і на паляпшэнне інфраструктуры, і, што самае галоўнае, дзякуючы гэтым сродкам хлопцы і дзяўчаты атрымаюць магчымасць выехаць за мяжу на зборы або спаборніцтвы», — сказаў Ганчароў.

Пляцоўка, на якой пройдуць таргі, а таксама час іх пачатку будуць абвешчаныя ў бліжэйшы час.

Ганчароў — адзін з самых маладых удзельнікаў спаборніцтваў, дэбютант Алімпіяды. Нарадзіўся 2 снежня 1995 года ў Віцебску. Двухразовы чэмпіён Еўропы ў індывідуальных скачках (у 2014 і 2016 гадах), і зараз прынёс у беларускую скарбонку першае і пакуль адзінае алімпійскае золата.

# Выбары: мастацтва немагчымага

Сяргей ПУЛЬША

**Палітыка — гэта мастацтва магчымага, казаў Ота фон Бісмарк. У Беларусі гэта яшчэ і мастацтва немагчымага. Прычым, не толькі для апазіцыі.**

Пасля рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты зразумела, што ўлада знаходзіцца ў нейкім ідэйным разладзе. З аднаго боку, трэба паказаць Захаду, што сітуацыя з выбарамі ў нас значна палепшылася. Бо ад гэтага залежыць атрыманне крэдытаў, што надзвычай важна ў сённяшняй эканамічнай сітуацыі. З іншага — трэба паказаць грамадству, што ўлада моцная, і «ўсё пад кантролем». То бок, і грошай вельмі хочацца, і так, каб не «дэстабілізаваць становішча».







## Няўладная «лібералізацыя»

Гэтая кампанія адзначылася ліберальнай рэгістрацыяй кандыдатаў у дэпутаты. Канешне, можна пагадзіцца з лідарам Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатолем Лябедзькам, які заявіў, што «ўлады зачысцілі верхнюю частку спісу правацэнтрыстаў». Гэта ён казаў, калі даведаўся пра нерэгістрацыю кандыдатамі ў дэпутаты намесніка старшыні Руху «За Свабоду» Алеся Лагвінца і кіраўніка мінскай арганізацыі АГП Мікалая Казлова. Не былі зарэгістраваныя моцныя рэгіянальныя лідары — Дзяніс Дашкевіч у Рагачове і Павел Пракаповіч у Маладзечне, і шэраг іншых.

Усё ж з Лябедзькам можна паспрачацца. Бо зарэгістравалі шмат іншых яскравых асобаў: Вольгу Кавалькову, Марыну Хоміч, Юрася Губарэвіча, Паўла Стэфановіча… З «неправацэнтрыстаў» зарэгістраваныя Алена Анісім і Алег Трусаў, Таццяна Караткевіч і Андрэй Дзмітрыеў, з цяжкасцю, але зарэгістравалі Уладзіміра Падгола і Аляксея Янукевіча. І шмат каго яшчэ.

Улады імкнуліся адсеяць не столькі найбольш моцных, колькі найбольш крэатыўных. Тых, хто сапраўды мог правесці яскравыя і яркія кампаніі. Мікалай Казлоў, напрыклад, кожныя выбары ловіць за руку іх фальсіфікатараў — бачна, дапамагае праца ў міліцыі па пошуку рабаўнікоў і «кішэннікаў». Пасля нашумелага канцэрту Вольскага пра Алеся Лагвінца ведае ўся краіна, а не толькі выбаршчыкі на акрузе. Пра барацьбу з уладамі Дзяніса Дашкевіча з Рагачова «Новы Час» пісаў неаднаразова. Маладзечанец Павел Пракаповіч вядомы змаганнем з будаўніцтвам гіганцкіх свінакомплексаў у рэгіёне… І так можна казаць амаль пра ўсіх знятых з дыстанцыі.

Варта зазначыць, што рэгістрацыя дэмакратаў кандыдатамі ў дэпутаты не ёсць заслугай улады. Папросту апазіцыя ўрэшце вучыцца працаваць па тых правілах, якія ёсць. Большасць дэмакратаў прайшлі рэгістрацыю праз вылучэнне ад палітычных партый. Тая ж каардынатарка БХД і лідарка маладых хрысціянскіх дэмакратаў Марына Хоміч як сябра АГП. Знoўку — мастацтва магчымага.

## Каму нашкодзілі?

Нерэгістрацыя тых, хто найбольш крэатыўна праявіў сябе падчас збору подпісаў, з'яўляецца, як ні дзіўна, мінусам для самой улады. Па-першае, такая фільтрацыя кандыдатаў выклікае ў выбаршчыкаў поўнае расчараванне самім працэсам выбараў. Шмат хто зараз кажа, што дэпутаты вызначаныя загадзя і выбары анічога не вырашаюць, таму хадзіць на іх не варта.

Па-другое, гэтая нерэгістрацыя дае магчымасці для саміх незарэгістраваных кандыдатаў. Вядома, што ў апазіцыі, як і ва ўлады, даволі кароткая «лава запасных». А таму самі кандыдаты па адных акругах з'яўляюцца даверанымі асобамі кандыдатаў па іншых акругах. У выніку той, хто мог бы стаяць на адным пікеце цэлы дзень альбо сустракацца з выбаршчыкамі адной акругі, можа за дзень аб'ехаць тры пікеты сваіх зарэгістраваных сяброў, і пагаманіць з людзьмі ўтрая больш. Асабліва гэта тычыцца лідараў партый і знакавых асобаў дэмакратычнай апазіцыі. А зарэгістраваныя кандыдаты ў дэпутаты могуць завабіць свой электарат на сустрэчы з гэтымі знакавымі асобамі.

«Зарэзаны» Мікалай Казлоў зазначыў, што ўлады не далі яму аўдыторыю ў 60 тысяч выбарцаў. Але ён стаў даверанай асобай 30 кандыдатаў у дэпутаты. «Не далі адну акругу, вазьму трацінy краіны», — заявіў ён.

Гэта таксама мастацтва магчымага. Галоўнае толькі, каб у такіх давераных асобаў хапіла моцы і імпэту ўкласці свой унёсак калі не ў перамогу кандыдата, дык у яго агітацыйную і прапагандысцкую кампанію.

Роля гэтых давераных асобаў сёння выглядае нават значна большай, чым роля самога кандыдата. Тым больш, што дэмакраты, як і раней, асноўным накірункам дзейнасці лічаць тую самую агітацыю і прапаганду сваіх ідэй і каштоўнасцяў, а не трапляннe ў парламент.

І, дарэчы, менавіта давераныя асобы складаюць першы і асноўны касцяк сістэмы назірання за выбарамі. Што, канешне, не можа радаваць уладу.

## Хто арганізатар Плошчы?

У той жа час старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына агучыла тое, чаго ўлады палохаюцца больш за ўсё. «Заклікі, якія гучаць нават цяпер, паказваюць, што ўдзельнікі падзеяў 2010 года нічому не навучыліся нават у турме. Яны зноў рыхтуюць акцыі непадпарадкавання. Гэта самая вялікая пагроза. З усім іншым мы справімся. Усё пад кантролем», — працытавала яе «Еўрарадыё».

Не будзем казаць, што акцыі грамадзянскага непадпарадкавання з-за незадаволенасці вынікамі выбараў — нармальная з'ява ва ўсім свеце. Варта толькі адзначыць, што Лідзія Міхайлаўна сама прыклала неблагія намаганні да падрыхтоўкі гэтай «самай вялікай пагрозы». Нішто ніадкуль не ўзнікае, і нішто нікуды не знікае — законы захавання масаў і энергіі ніхто не адмяняў. Калі актыўны і крэатыўны патэнцыйны кандыдат выштурхнуты за межы выбарчага працэсу, ён знойдзе сваім здольнасцям іншае прымяненне. Адмовілі Мікалаю Статкевічу ў магчымасці паўдзельнічаць у выбарах? Атрымайце патэнцыйнага лідара Плошчы. І скардзіцца тут трэба толькі на самога сябе.

З той жа плыні і неразуменне ўлады магчымасцяў новых тэхналогій камунікацыі. Падаецца, Туніс, Сірыя, Украіна, урэшце, павінны былі даць разуменне,

**З выказванняў арганізатараў беларускіх выбараў, найперш той жа Лідзіі Ярмошынай, узнікае адчуванне, што ўлада ці не ўпершыню за апошнія некалькі электаральных кампаніяў губляе ініцыятыву**

як працуюць сацыяльныя сеткі. Аднак Лідзія Ярмошына кажа: «Вось я, напрыклад, зусім не ўяўляю, навошта патрэбныя сацыяльныя сеткі. Я лічу, што з сябрамі трэба размаўляць, сустракацца сам-насам ці па тэлефоне. Я не разумею, як можна размаўляць праз перапіску. Як можна выхваляцца фатаграфіямі перад незнаёмымі людзьмі. Для мяне гэта нешта бессэнсоўнае, надуманае і пантовае».

Старшыня Цэнтрвыбаркаму спадзяецца на тое, што «тыя, хто ідзе ў дэпутаты, — гэта людзі за 40. Магчыма, нават за 50», і сацсеткамі таксама не карыстаюцца. Але ж гэты канал камунікацыі існуе не для кандыдатаў, а для выбаршчыкаў.

То бок, ЦВК пакуль не прыдумала нічога новага, як рассылаць смс-спам праз сеткі мабільных аператараў, ці не поўнасцю аддаючы інтэрнэт апазіцыянерам. І гэта таксама магчымасць — як для прыхільнікаў удзелу ў выбарах, так і для аматараў «Плошчы». Для апошніх — вельмі цяжкая задача: якім чынам адарваць грамадзян ад кампутараў і прымусіць іх выйсці ў рэал, то бок на тую самую плошчу? Вось тут ёсць месца разгарнуцца для актыўных і крэатыўных.

## Калі грымне?

З выказванняў арганізатараў беларускіх выбараў, найперш той жа Лідзіі Ярмошынай, узнікае адчуванне, што ўлада ці не ўпершыню за апошнія некалькі электаральных кампаніяў губляе ініцыятыву. У іх застаецца адзіны звыклы сродак — не дапусціць дэмакратычных кандыдатаў да выбаршчыкаў.

У Мінску праўладны кандыдат, які пазмагаецца з Марынай Хоміч, ужо ў дзень рэгістрацыі па дамове з камісіяй заняў на перыяд агітацыі з раніцы да вечара ўсе магчымыя залі для сустрэч з выбаршчыкамі. «Уся гэтая гульня ў дэмакратыю выглядае як фарс. Зразумела, што той кандыдат усе гэтыя сустрэчы праводзіць не будзе, а робіцца гэта для таго, каб пазбавіць мяне магчымасці сустрэчы з выбаршчыкамі», — адзначыла Хоміч.

У Бярозе, як сведчыць лідар АГП Анатоль Лябедзька, на прахадных мясцовых прадпрыемстваў віселі аб'явы пра сустрэчу з кандыдатам у дэпутаты ад гэтай партыі Аляксандрам Кабанавым. Але ў выніку на Рамзаводзе згасла электрычнасць. А на прадпрыемстве «Цеплапрыбор» увесь працоўны калектыў у дзень сустрэчы адправілі ў адгул. «Але вось што я думаю: работнікаў Рамзаводу і «Цеплапрыбору» зараз не трэба пераконваць, што сумленных выбараў у краіне няма. Дый на Аляксандра Кабанава многім захочацца паглядзець больш уважліва», — зазначае палітык.

Рэдакцыя газеты «Вячэрні Брэст» адмовіла кандыдату ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Ігару Маслоўскаму ў законным праве размясціць на старонках выдання сваю перадвыбарчую праграму. Падставай для адмовы паслужыла крытыка кандыдатаў ад улады, хаця артыкул 45 Выбарчага кодэкса гарантуе як грамадзянам, так і кандыдатам, правa «свабоднага і ўсебаковага абмеркавання перадвыбарчых праграм кандыдатаў (…), іх палітычных, дзелавых і асабістых якасцяў, правядзення агітацыі за ці супраць кандыдата на сходах, мітынгах, у сродках масавай інфармацыі».

Усё гэта нагадвае апошнія часы позняй перабудовы, калі КПСС таксама імкнулася не дапусціць сустрэчаў «альтэрнатыўных кандыдатаў» з народам. Як тут ні ўзгадаць Булата Акуджаву: «Рымская імперыя часоў занепаду захоўвала бачнасць строгага парадку: Цэзар быў на месцы, прыхільнікі побач, жыццё было прыўкрасным — гледзячы па справаздачах».

А потым колішняя (не рымская, а савецкая) улада атрымала стотысячныя мітынгі пад Домам ураду ў Мінску.

## Хто ў плюсе?

Амаль у любым выніку кампаніі апазіцыя застанецца «ў плюсе». Дэмакраты ўжо зрабілі амаль усё, што планавалі падчас збору подпісаў. Зараз у іх ёсць толькі магчымасць замацаваць зробленае выступамі па радыё, тэлебачанні і праз дзяржаўныя СМІ. І важна потым не згубіць гэты поспех — сваю вядомасць, — да наступных выбараў.

А ўлада кампанію прайграе. Ёй не ўдасца прадаць Еўропе «дэмакратызацыю выбарчага працэсу». Папярэдняя справаздача дэлегацыі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, якая наведала Мінск, зазначыла, што ніякага прагрэсу ў выбарах у сінявокай не адбылося. Прычым, справаздачы ПАРЕ заўсёды адрозніваліся мяккасцю ў фармулёўках. Што тады скажуць назіральнікі БДІПЧ АБСЕ? Ад іх справаздачаў, паўтаруся, не ў малой ступені залежаць крэдыты для краіны.

А гэта яшчэ назіранне паўнавартасна не пачалося…

# На выбары — дзеля беларушчыны

Марат ГАРАВЫ

**Кіраўніцтва рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» ідзе на парламенцкія выбары дзеля падтрымкі беларушчыны.**

Пра гэта ў інтэрв'ю НЧ заявілі старшыня ТБМ Алег Трусаў, які з'яўляецца кандыдатам па Чкалаўскай выбарчай акрузе №96 Мінска, і першы намеснік кіраўніка грамадскага аб'яднання Алена Анісім — кандыдатка па Стаўбцоўскай выбарчай акрузе №70. Насамрэч, як патлумачыў Трусаў, вылучэнцаў ад ТБМ нашмат больш.

### Матывацыя

— Кіраўніцтва грамадскага аб'яднання вырашыла прыняць актыўны ўдзел у сёлетняй выбарчай кампаніі дзеля папулярызацыі беларушчыны. З гэтай мэтай мы неаднаразова сустракаліся з лідарамі палітычных партый дэмакратычнай апазіцыі, каб у свае палітычныя праграмы яны ўключылі праблемы беларушчыны, — тлумачыць Алег Трусаў.

Адпаведна, кіраўніцтва ТБМ вырашыла само пачаць гэтую кампанію шляхам збору подпісаў, бо было б дзіўна, калі б мы заклікалі партыі, а самі не ўдзельнічалі ў выбарах. Фактычна, у гэтай справе прымае актыўны ўдзел усё кіраўніцтва таварыства, у тым ліку і намеснік старшыні Дзяніс Тушынскі, які дапамагаў мне ладзіць пікеты па зборы подпісаў. Астатнія актывісты ТБМ — каля 40 чалавек — вырашылі пайсці больш лёгкім шляхам, вылучаца ад палітычных партый дэмакратычнай апазіцыі.

Паколькі ўдзел актывістаў ТБМ у кампаніі матываваны клопатам пра папулярызацыю беларускага слова, адпаведныя і нашы патрабаванні. Каб будучы парламент працаваў па-беларуску, каб законы прымаліся на мове тытульнай нацыі, каб стварыўся Нацыянальны ўніверсітэт з беларускай мовай навучання, каб адкрываліся беларускамоўныя школы і гімназіі, каб заробак дэпутата адпавядаў сярэдняму па краіне, як і пенсія парламентарыя, каб, урэшце, быў прыняты закон аб дзяржаўнай падтрымцы роднай мовы.

### Настрой грамадства

— Калі зрабіць параўнанне з настроямі грамадства дзесяцігадовай даўніны, дык можна заўважыць галоўнае: людзі вельмі не любяць уладу, у тым ліку і дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, — распавядае Трусаў. — Са мною канкуруе былая дэпутатка, якая раней працавала медыкам. Паколькі яе зноў вылучылі, народ вельмі абурэецца: «Што яна зрабіла? Яна з намі не сустракалася. Зноў жадае ў парламент, бо там вялікі заробак». І што зрабілі ўлады? Як толькі з'яўляўся мой пікет, тут жа насупраць з'яўляўся іх. Для мяне гэта было вельмі добра, бо людзі спачатку ішлі лаяць вылучэнку ўладаў, каб потым прынцыпова падпісацца за мяне.

Раней было па-іншаму. Дзесяць гадоў таму масава прыходзілі прыхільнікі дзеючай улады і нападалі на мову і на бел-чырвона-белы сцяг. А зараз да мяне прыйшоў адзін такі дзед, дык яго мясцовыя мужчыны ледзьве не забілі. Разам з тым — і гэта вельмі сумна — людзі ні ў што не вераць, у тым ліку ў справядлівыя выбары, і нічога не патрабуюць. Кажуць: «З павагі да вас мы подпіс паставім, аднак вас туды не пусцяць». А многія мінчукі гавораць, што ні на якія выбары яны не хадзілі і зараз не пойдуць. Шмат хто настолькі запужаны мажлівым звальненнем за подпісы на карысць незалежнага вылучэнца, што баяцца гэта рабіць. Нават некалькім выкладчыкам з Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэту культуры і мастацтваў, дзе я выкладаю, у рэктарацe забаранілі ўвайсці ў маю ініцыятыўную групу.

Цікава і тое, што людзі зарэгістраваныя ў адным раёне горада, а жывуць у іншым. І калі прыходзілі ставіць свой подпіс за мяне, дык я абавязкова пытаўся, ці зарэгістраваны гэтыя грамадзяне ў Кастрычніцкім раёне сталіцы.

А паколькі народ не разумее розніцы паміж прэзідэнцкімі і парламенцкімі выбарамі, за мяне прыязджалі падпісвацца нават з іншых гарадоў Беларусі. Людзі пра выбары мала што ведаюць, і ніхто ім асабліва пра гэта і не тлумачыць.



— Людзі пазітыўна рэагуюць на беларускую мову, некаторыя прынцыпова падпісваліся за вылучэнцаў ТБМ, таму што мы размаўляем па-беларуску, — адзначае Алена Анісім.

Пазітыўна адрэагавалі на мой намер паўдзельнічаць у выбарах знаёмыя, аднакласнікі і актывісты ТБМ з Стаўбцоўшчыны, дзе я нарадзілася. На іх меркаванне, у парламент павінны ісці разумныя людзі. Прычым усе землякі з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй, хто мае час, аказвалі непасрэдную дапамогу ў справе збору подпісаў, бо людзей шмат што не задавальняе.

Так, многіх не задавальняе тое, што як толькі сярод дзяржаўных службоўцаў з'яўляецца чалавек, які не для сябе ўладу захапіў, а нешта робіць для людзей, ён хутка пазбаўляецца пасады. Відавочна, што менавіта такіх людзей чамусьці стараюцца прыбраць з уладных уплывовых структур. І паколькі гэтая тэндэнцыя відавочная,

**Раней было па-іншаму. Дзесяць гадоў таму масава прыходзілі прыхільнікі дзеючай улады і нападалі на мову і на бел-чырвона-белы сцяг. А зараз да мяне прыйшоў адзін такі дзед, дык яго мясцовыя мужчыны ледзьве не забілі**

пра яе людзі часцяком кажуць у правінцыі.

Трэба мець на ўвазе і тое, што на Стаўбцоўшчыне — радзіме народнага паэта Беларусі Якуба Коласа, — людзі вельмі прыхільна ставяцца да роднай мовы і нашага патрабавання пра працу парламента выключна па-беларуску, а таксама выказваюць незадавальненне закрыццём беларускамоўных школ і адсутнасцю ВНУ з беларускай мовай навучання. Увогуле, мае землякі адчуваюць няправільнасць дзяржаўнай палітыкі да мовы карэннай нацыі Беларусі.

У правінцыі заўважная і такая тэндэнцыя, калі прадстаўнікі ініцыятыўных групаў па зборы подпісаў за праўладных вылучэнцаў папярэджвалі грамадзян, каб яны больш ні за каго не ставілі подпісы. І гэта адкрыта робіцца насуперак заканадаўству, якое дазваляе кожнаму выбаршчыку падпісацца за вылучэнне ўсіх жадаючых па сваёй выбарчай акрузе. Аднак гэтую няшчырасць уладаў вельмі цяжка схаваць ад людзей, тым больш у рэгіёнах.

### Перспектывы

Для ТБМ збор подпісаў быў у дадатак і вялікай прапагандысцкай кампаніяй, кажа Алег Трусаў.

— У некаторыя інтэрнаты маіх людзей увогуле не пускалі, а дзе пускалі, там быў добры вынік: 50 подпісаў за вечар працы аднаго чалавека. Вось чаму я прасіў сябраў сваёй ініцыятыўнай групы, каб яны проста хадзілі па кватэрах, інтэрнатах і знаёмілі грамадзян з асобай і праграмай прэтэндэнта. А асноўныя свае намаганні я вылучаў на пікеты, хоць падчас кожнага збіраў не больш за дзесяць подпісаў. Але паколькі я вылучаўся яшчэ і па спісу Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), дык мае шанцы стаць кандыдатам у дэпутаты былі больш высокімі, чым у Алены Анісім, якая вылучалася толькі шляхам збору подпісаў грамадзян.

Калі я праходзіў этап збору подпісаў, то я правёў каля 15 пікетаў. І я ўпершыню атрымаў ад іх вялікае задавальненне, бо мяне падтрымлівалі ўсе, хто да мяне падыходзіў, — ад старых да малых. Аўтарытэт улады ўпаў ніжэй плінтуса, як казаў адзін добра нам вядомы чалавек.

Паколькі сітуацыя ў краіне кардынальна змянілася, ёсць спадзяванне, што ў нашых выбарчых акругах могуць справядліва падлічыць галасы выбаршчыкаў. Тым больш, што ўпершыню сярод наменклатуры з'явіліся тыя, хто хоча, каб у парламенце была хоць невялікая апазіцыя. Бо калі Рэспубліка Беларусь страціць сваю незалежнасць, чыноўніцтва пазбавіцца ўплывовых уладных пасадаў. Так што трэба спрабаваць перамагчы, бо пад ляжачы камень вада не цячэ. Тым больш, што сённяшні непрадказальны свет вельмі хутка змяняецца.

Мая мэта — прапаганда беларушчыны. На жаль, шмат якія «апазіцыйныя» партыі адмовіліся ад беларускай мовы, вядуць сваю кампанію па-руску. ТБМ прынцыпова пайшло ў гэтую кампанію, каб пашыраць беларушчыну. І ўсе мае намеснікі вельмі актыўна ўдзельнічаюць у кампаніі.

Не будучы ў парламенце, мы ўжо скарысталі ўсе наяўныя магчымасці. Калі ўдасца трапіць у парламент мне ці маёй намесніцы Алене Анісім, то мы будзем за тое, каб парламент працаваў па-беларуску, каб усе законы прымаліся на беларускай мове. Стаўшы дэпутатамі, мы будзем адразу выступаць за заснаванне Нацыянальнага ўніверсітэту, за закон аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы.

Атрымаўшы гэты мандат, мы можам зрабіць для беларушчыны вельмі шмат. Бо зараз мы спыніліся, мы буксуем у адносінах з уладамі. Стаўшы дэпутатамі, мы можам пашырыць беларускі ўплыў ва ўсіх сферах жыцця.

— Калі мы не прэтэндуем на тое, каб стаць дэпутатамі парламенту, значыць, нас няма, — катэгарычная Алена Анісім. — А калі мы ідзем на выбары, і за намі ідуць людзі, якія збіраюць па тысячы подпісаў за кожнага вылучэнца ТБМ па кожнай акрузе, значыць, мы — сіла, значыць, нам можна верыць і за намі можна ісці.

**РУСІФІКАЦЫЯ БЕЛАРУСІ**

**ў лічбах**

**99,9%**

беларускіх студэнтаў ВНУ навучаюць на рускай мове

**86%**

беларускіх школьнікаў навучаюць на рускай мове

**90%**

беларускіх дзетак выхоўваюць у яслях і садках на рускай мове

на 2015 г.

# Крызіс і новая спажывецкая мадэль

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Рэальныя прыбыткі насельніцтва працягваюць падаць, і беларусы старанна эканомяць. Але сёння гаворка ідзе нават не пра эканомію, а пра рэформу мадэлі спажывання. Яна ўсё больш падобная на «ліхія 90-я».**



© AP

## Назад у будучыню

Калі год таму жыхары нашай краіны эканомілі, адмаўляючыся ад абедаў у кавярнях і дарагой касметыкі, то зараз людзі вымушаныя больш сур'ёзна перакройваць сямейны бюджэт. У выніку ён робіцца ўсё больш падобны на бюджэт, які мы мелі ў 90-х гадах. Прычым, з характэрнымі для таго часу перакосамі: нашы суайчыннікі гатовыя эканоміць на ежы, транспарце, адпачынку і вопратцы. Але не гатовыя скараціць спажыванне спіртнога і цыгарэт. Аўтар гэтых радкоў за мінулы месяц шмат гутарыў з людзьмі ў розных кутках Беларусі — і ўсе яны распавядалі, як жывуць і выжываюць у крызіс. Дакладней — як зжываюцца з ім.

Адразу адзначу некалькі асноўных тэндэнцый. Практычна ніхто не пачаў эканоміць на камунальных паслугах. Затое амаль усе адзначалі: з-за рэзка пацяжэлых «жыровак» яны зараз вымушаныя моцна эканоміць на чымсьці іншым. Аднак пры гэтым мала хто паменшыў выдаткі на алкаголь і цыгарэты. Хіба што сталі купляць менш якасны тавар: шмат хто жаліўся, што «даводзіцца паліць усялякую брыдасць» і «нармалёвае піва занадта дарагое — мачу даводзіцца піць».

## Есці або не есці

Нават у параўнанні з мінулым годам — таксама крызісным — нашмат больш жыхароў Беларусі пачалі эканоміць на ежы. «Я сабе толькі раз на месяц, з пенсіі, купляю сасіскі паласавацца. Звычайная ежа — кашы ды тварог. З такімі коштамі на камуналку, як зараз, з ежай асабліва не разгонішся, — распавядае мінская суседка-пенсіянерка. — Гэта яшчэ добра, што не прыходзіцца дапамагаць дзецям: абедзве дачкі ў Ленінградзе жывуць, абедзве там замуж добра выйшлі, усё ў іх у парадку».

Калі праведзенае ў чэрвені 2015-га даследаванне МАСМІ паказала, што кожны чацвёрты беларус (25,4% апытаных) тады эканоміў на прадуктах харчавання, то зараз выдаткі на ежу, на думку сацыёлагаў, скараціла 70% насельніцтва. З іх больш за палову — значна. У шэрагу раёнаў Беларусі карціна зусім сумная, як на пачатку 90-х: якасныя прадукты ўспрымаюцца як раскоша, аснова рацыёну — макароны, бульбачка і сланечнікавы алей. Мяса з'яўляецца на стале, толькі калі прыходзяць госці. Каб заўважыць гэта, не абавязкова хадзіць па кватэрах і зазіраць у лядоўні, досыць паназіраць за пакупнікамі ў краме, паглядзець на іх кошыкі на касе. Або проста пагаварыць з людзьмі.

«Я не памятаю ўжо, калі рыбу ела. Зараз нават селядзец нейкіх незразумелых грошай каштуе. Ямо ў сям'і ўсё больш бульбачку, ды яшчэ грэчку — добра, што яна падабаецца і дзецям, і мужу. А з мяса толькі курыцу раз на тыдзень бяру, — распавядае забяспечаная, па мясцовых мерках, жыхарка Пінска Васіліса. — Часам купляю шакаладку: пацешыць дзяцей, калі адзнакі добрыя, ды сябе папесціць. Але гэта нячаста».

Звярніце ўвагу: усё часцей у падобных расповедах гучаць словы «папесціць», «паласавацца» і іншыя з таго ж шэрагу. Такія словы — маркеры беднасці. Калі пажылая жанчына з пенсіі «песціць» сябе курыным мясам або «ласуецца» сырам — гэта значыць, што ў паўсядзённым жыцці яна практычна недаядае. Гэта значыць, што аснова яе звычайнага рацыёну — хлеб і крупы. Шмат якія з такіх слоў часта гучалі на пачатку 90-х, але потым, збольшага, сышлі з мовы. А зараз вяртаюцца.

Выраз «з зарплаты я купіў сабе вэнджанай курачкі паласавацца» — адназначны маркер мяжы галечы. «Ласункам» робіцца яшчэ не так даўно ардынарныя прадукты — добры сыр, кілбаса, садавіна, рыба, шакаладныя цукеркі… І калі ў гаманцы аказваецца грошай трохі больш звычайнага або ёсць жаданне пацешыць дзяцей — людзі дазваляюць сабе «папесціцца ласункамі», «пацешыць дзяцей яблычкамі».



**Праведзенае ў чэрвені 2015-га даследаванне МАСМІ паказала, што кожны чацвёрты беларус (25,4%) эканоміў на прадуктах харчавання. Зараз выдаткі на ежу, на думку сацыёлагаў, скараціла 70% насельніцтва**

«Пакупнікоў менш не становіцца, а вось абарот зваліўся вельмі моцна. Людзі перайшлі на таннейшыя прадукты. Хоць бываюць успляскі — нядаўна актыўна скуплялі цукар, па 10–15 кілаграмаў. Таму што пайшлі чуткі, што падаражэе, — распавядае прадавец звычайнага мінскага гастранома непадалёк ад Трактарнага заводу. — Але пасля такіх успляскаў яшчэ больш правал, таму што эканомяць. Зусім мала рыбы купляюць, мяса таксама нашмат менш, чым раней. У большасці грошай няма, бяруць субпрадукты і самыя танныя каўбасы. Каву і гарбату купляюць імпартныя, але самыя танныя, — яшчэ год таму гэта не было так прыкметна. Амаль не купляюць гародніну — побач, ля метро, у бабулек тое ж самае танней».

## Добрасумленная галеча

Беларусы не толькі змяняюць свой рацыён, але і ў цэлым без наракання ўспрымаюць агульнае пагаршэнне якасці жыцця. Напрыклад, яны практычна не скарацілі выдаткі на аплату лекаў і добрасумленна аплачваюць камунальныя выдаткі. Хоць на апошнім усё ж імкнуцца эканоміць. «Я ўжо два гады як электрычны імбрык на антрэсолі закінуў. А дастаў адтуль звычайны жалезны, — распавядае мужчына гадоў 50-ці, мой спадарожнік у цягніку Гомель—Мінск. — Таму што ад электрычнага лічыльнік круціцца як шалёны. А за газ плацім фіксаваны кошт, лічыльнік пакуль не дадумаліся паставіць».

Людзі паўсюль адзначаюць: яны нашмат меней наведваюць кавярні, рэстараны, нават недарагія закусачныя — узяць з сабой на працу або ў дарогу некалькі бутэрбродаў нашмат эканомней.

Што тычыцца медыцыны, то тут сітуацыя дваістая. З аднаго боку, беларусы не сталі выдаткоўваць менш грошай на лекі: напрыклад, пераходзіць з замежных пігулак на іх беларускія аналагі. З іншага — значна скараціўся попыт на платныя медыцынскія паслугі. Мая далёкая сваячка літаральна з сорамам прызналася, што ўпершыню ў сталым веку пайшла не да платнага стаматолага, а ў мясцовую бясплатную паліклініку.

Падобная сітуацыя і ў галіне догляду за прыгажосцю. Шмат хто пераходзіць на айчынныя гелі для душа, шампуні для валасоў і іншыя падобныя прадукты. «Упершыню пагаліўся з пенай «Модум», апынулася амаль нармалёва, — дзеліцца ўражаннямі сусед, студэнт. — Заўсёды галіўся з пенай «Jillette», а зараз яна дурныя грошы каштуе».

У салонах прыгажосці — ды і ў звычайных цырульнях — наведвальнасць прыкметна звалілася, таксама знізіўся сярэдні чэк і паменшыўся попыт на дадатковыя паслугі. Часам падобная эканомія проста зашкальвае. Цырульніца Яна ў Слоніме скардзіцца: «Шмат людзей прыходзяць стрыгчыся з бруднай галавой. Бачна, што не мыліся дзён пяць. Прапаноўваеш памыць — адмаўляюцца, бо даражэй выйдзе. Тлумачыш, што брудную галаву стрыгчы нельга, — пачынаюць крычаць, што, маўляў, ці ведаю я, колькі яны за гарачую ваду плацяць. Зусім людзі дайшлі!».

## Багатыя таксама эканомяць

А што сапраўды радыкальна памянялася, дык гэта мадэль адпачынку. Паездкі за мяжу зноў сталі раскошай, затое рэзкае ажыўленне назіраецца на лецішчах. «Мы трымаемся дзякуючы сталым кліентам, і ўсе астатнія, наколькі я ведаю, таксама, — прызнаецца Ганна Валер'еўна, менеджар кампаніі-турапэратара. — Нават у сезон павелічэнне рэкламы не дае эфекту. Калі ў людзей няма грошай на адпачынак за мяжой, то колькі рэкламы ні давай — сэнсу нуль. Пры гэтым унутраны турызм таксама не расце. Для нашых людзей унутраны турызм — гэта паехаць у Маладзечна да цешчы. Яны арганічна не разумеюць, як можна плаціць грошы турфірме за паездку па Беларусі, калі гэта толькі не экскурсія ў Мір і Нясвіж».

Прынята лічыць, што ў крызіс багатыя багацеюць, а бедныя — бяднеюць. Але цяпер у Беларусі імкнуцца эканоміць і, здавалася б, вельмі забяспечаныя людзі. Напрыклад, зараз яны імкнуцца наймаць «шматфункцыянальны» хатні персанал. Калі патрэбная нянька — то абавязкова з функцыямі хатняй прыслужніцы, або хатняя прыслужніца з навыкамі кухара і гэтак далей. Ад такога падыходу выйграюць сапраўды добрыя працаўнікі, якія могуць прэтэндаваць на надбаўку за шматпрофільнасць.

Пры гэтым канкурэнцыя рэзка вырасла. «Інтэрнэт літаральна кіпіць ад аб'яў жадаючых падпрацаваць нянькай або хатняй прыслужніцай, рэпетытараў таксама з лішкам, — дзеліцца сваім досведам 25-гадовая Марына. — Я ўладкоўвалася хатняй прыслужніцай, уладкавалася за месяц, але атрымліваю нашмат менш, чым разлічвала. Таму што хатнюю прыслужніцу, кухара, кіроўцу замяніць вельмі проста. Вось з нянькай складаней — там і рэкамендацыі патрабуюцца, і наогул вартую даверу знайсці няпроста. І заробак у нянькі вышэй, бо калі яна незадаволеная — гэта абавязкова адаб'ецца на дзіцяці».

## Што нас чакае далей

Эканоміць беларусам давядзецца яшчэ не адзін год. Як гэта будзе выглядаць? Наўрад ці людзі будуць яшчэ больш эканоміць на ежы. Але дакладна можна сказаць, што пойдзе ўніз нерухомасць — танней будуць каштаваць як кватэры на другасным рынку, так і арэнда жылля. У чарговы раз знізяцца аб'ёмы будаўніцтва, бо сабекошт новай кватэры ўжо зараз амаль такі ж, як кошт кватэры на рынку. Часцей будуць купляць бюджэтныя смартфоны, шмат хто будзе змяняць свае тарыфныя планы на больш танныя. Многія адмовяцца ад штодзённага выкарыстання ўласных аўтамабіляў, перасядуць на грамадскі транспарт.

З іншага боку, узрасце попыт на розныя навучальныя курсы, асабліва па тых прафесіях, попыт на якія будзе заўжды, — напрыклад, кухара, цесляра ці электрыка. І ўсім давядзецца круціцца і шукаць падпрацоўкі альбо другую працу.

Беларусь Эканамічная

Выпуск №3
(жнівень)

САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by



2 АДНАЎЛЯЛЬНАЯ ЭНЕРГЕТЫКА — СТЫМУЛЫ ДЛЯ ІНВЕСТАРА ГУБЛЯЮЦЦА

4 АЭС ЦІ ВЕТРАГЕНЕРАТАР?
ДЗЯРЖАВА БОЛЬШ НЕ ЖАДАЕ СТЫМУЛЯВАЦЬ РАЗВІЦЦЁ АЛЬТЭРНАТЫЎНАЙ ЭНЕРГЕТЫКІ

Яўген МЕРКІС

# Цераз край: як жыве энергасістэма Беларусі



**Шматлікія эксперты заяўляюць, што і без АЭС нам хапае электрычнасці. Пра тое, чым і як жыве энергасістэма Беларусі, разважае былы дэпутат Вярхоўнага савета 13-га склікання Марат Афанасьеў.**

## Арыфметыка

Калі верыць словам міністра энергетыкі Беларусі Уладзіміра Патупчыка, то на сённяшні дзень мы маем 9600 МВт усталяванай магутнасці ў энергасістэме краіны. Акрамя гэтага больш за 500 МВт магутнасцяў выпрацоўваюць розныя прадпрыемствы («Нафтан», БМЗ, «Гродна Азот» і інш.)

Як вядома, характарыстыка любой энергасістэмы лёгка пацвярджаецца спажываннем электраэнергіі ў гадзіны максімуму нагрузак. Такія гадзіны бываюць летам у чэрвені і зімой у снежні. Самая вялікая нагрузка, зафіксаваная ў Беларусі за апошнія тры гады, складала 5800 МВт.

Па нарматывах любой энергасістэмы, 10% у ёй мае быць у гарачым рэзерве і 10% у халодным. Атрымліваецца, што 1200 МВт у Беларусі могуць быць падключаны ў любы момант. Такім чынам, з улікам максімуму ў 5800 МВт, Беларусі трэба каля 7000 МВт. Сярэдняя нагрузка нашай энергасістэмы складае каля 4300 МВт. Такім чынам, у краіне існуе досыць вялікі запас электраэнергіі.

У энергетыкаў ёсць свае разлікі, паводле якіх пры 80% магутнасцяў затраты на энергасістэму складаюць мінімальную велічыню. Нават калі пакінуць 500 МВт у запасе ці рамонце, атрымліваецца 7500 МВт. Але ж мы ўжо маем 10 тысяч, то бок больш за 2500 лішніх МВт.

На сённяшні дзень гэта раўняецца таму, што дае краіне Лукомльская ГРЭС. Такім чынам, можна падлічыць, у колькі гэта абыходзіцца насельніцтву, бо дзейнасць умоўна «лішняй» Лукомльскай ГРЭС з усім яе персаналам і абслугоўваннем кладзецца на плечы падаткаплатнікаў. Магчыма, большасць беларусаў і не падазраюць, што менавіта яны са сваёй кішэні аплачваюць функцыянаванне падобных аб'ектаў, бо ўсё гэта закладзены ў завышаныя тарыфы.

## За народныя грошы

Калі нагрузку ў 5800 тысяч МВт у гадзіны максімуму памножыць на 8760 тысяч гадзін гадавога часу, то атрымліваецца, што нашая энергасістэма можа выпрацаваць каля 50 млрд кілават-гадзін. У той жа час Беларусь спажывае толькі 36 млрд кілават-гадзін.

Калі ж сёння яшчэ запусціць і Астравецкую АЭС магутнасцю ў 2400 МВт, то нашая энергасістэма стане проста монстрам. Пры гэтым АЭС будзе працаваць увесь час, яе немагчыма будзе перавесці ў ніякія рэзервы. З улікам каэфіцыента выкарыстання, можна ўмоўна памножыць трохі меншую лічбу яе магутнасці ў 2000 МВт на 8760 тысяч гадзін гадавога часу. У выніку мы маем 17 млрд. кілават-гадзін — то бок фактычна палова таго, што мы спажываем зараз.

Але ўсе астатнія магутнасці нікуды не падзенуцца. Атрымліваецца, што нам ужо не патрэбная цэлая Лукомльская ГРЭС, а мы будуем яшчэ адну такую!

Апошнім часам чыноўнікі і энергетыкі пачынаюць казаць пра тое, што лішкі можна будзе задзейнічаць у прамысловасці. Гучалі размовы пра павелічэнне долі каляровай металургіі ў нашай прамысловасці, але ж у нас няма грошай на здабычу тых жа баксітаў для вытворчасці алюмінію, каб толькі загрузіць нашу АЭС. Пры гэтым падобныя неразумныя сцверджанні транслююць па ўсіх дзяржаўных СМІ.

Віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка заявіў, што правядзенне электрычнасці ў некаторыя вясковыя рэгіёны Беларусі дапамога пазбавіцца ад запасаў электраэнергіі, але ж Беларусь ужо даўно электрыфікаваная!

## Цёплая краіна

Яшчэ некалькі гадоў таму ў Беларусі спажыванне цеплаэнергіі складала каля 74 мільёны гігакалорый на год. На сёння, нават нягледзячы на ўвядзенне новага жылля, нашае спажыванне ўпала да 71–72 мільёнаў гігакалорый.

Да гэтага прывяла і палітыка энергазберажэння (уцяпленне дамоў, пракладванне ізаляваных трубаў і інш.), але фактычна галоўнай прычынай змяншэння страт цяпла было ўсталяванне шклопакетаў у кватэрах беларусаў. Менавіта праз старыя вокны і гублялася большая частка цяпла. Таксама паўплывала і ўсталяванне рычажных змяшвальнікаў, замест штурвальных. Гэта дазволіла зэканоміць каля 1 мільёна кубаметраў вады.

Сёння кажуць, што на будучай АЭС паставяць бойлеры вады, але нам і так ужо хапае цяпла. А вось дзе бойлеры сапраўды спатрэбіліся б, так гэта ў цеплапунктах вялікіх гарадоў, каб страты цяпла ў трубах былі як мага найменшымі.

## За сябе і суседа

Дэмаграфічная сітуацыя ў Беларусі таксама прывяла да незапатрабаванасці энергіі. За апошнія дзесяцігоддзі колькасць насельніцтва ў краіне зменшылася амаль на мільён. Да гэтых лічбаў варта залічваць і працоўную эміграцыю — аплачваць электраэнергію за тых, хто працуе за межамі, даводзіцца тым, хто застаўся. Часта беларускім энергетыкам даводзіцца закладваць у тарыфы і ўтрыманне разнастайных сацыяльных і вытворчых аб'ектаў — санаторыяў, калгасаў, спартовых каманд.

На сёння завышаныя тарыфы на электраэнергію нават выгадныя ўладзе. Плацяжы і паслугі, якія аказваюць камунальнікі, з'яўляюцца часткаю нашага ВУП. Таму, калі зрабіць сістэму больш эканомнай, то зменшацца і адпаведныя паказнікі.

Пры гэтым тарыфы для насельніцтва і прамысловых прадпрыемстваў адрозніваюцца. Калі звычайнаму спажыўцу энергія абыходзіцца ў прыкладна 10 цэнтаў ЗША, то асобным заводам даводзіцца плаціць да 18 цэнтаў ЗША. Такім чынам урад абдзірае ўласную прамысловасць і садзейнічае пагаршэнню сітуацыі ў сектары ў цэлым.

Адзіным плюсам тут можна лічыць пачатак працы над адмысловымі начнымі тарыфамі для прадпрыемстваў. Падобная практыка ўжо даўно існуе ў краінах Захаду.

## Самы высокі ў рэгіёне

На дадзены момант кошт электраэнергіі ў Беларусі самы высокі ў рэгіёне — каля 10 цэнтаў ЗША. У гэты ж час у Літве — 8, у Расіі — 6,8, ва Украіне — 6 цэнтаў ЗША.

Варта адзначыць, што зніжэнне спажывання электраэнергіі ў краіне не прывядзе да чаканага зніжэння коштаў на яе, бо чыноўнікам па-ранейшаму давядзецца ўтрымліваць фактычна ўсе энергетычныя прадпрыемствы і вялізны штат супрацоўнікаў для іх абслугоўвання.

Не атрымаецца знізіць кошты і праз закрыццё старых ды непатрэбных электрастанцый. З 10 тысяч МВт, якія выпрацоўваюцца ў Беларусі, каля 5 тысяч прыходзіцца на долю ТЭЦ, таму нават пры жаданні пасля ўвядзення ў эксплуатацыю АЭС іх будзе немагчыма зачыніць.

У выніку застаюцца Лукомльская і Бярозаўская ГРЭС, але гэта гарады, якія суцэльна залежаць ад гэтых прадпрыемстваў, бо іншай працы ў іх фактычна няма. Атрымліваецца, мы будуем Астравец, каб забіць Белаазёрск або Новалукомль…

## Каму лішкі?

Запасы электраэнергіі маглі б набыць суседнія краіны, але Польшча і Літва на дадзены момант ужо пераходзяць на іншыя стандарты сінхранізацыі сваіх энергасістэм. Умоўна кажучы, замест агульнай яшчэ з савецкіх часоў сістэмы яны пераходзяць на еўрапейскі стандарт, які больш жорсткі па сваіх патрабаваннях.

Да таго ж Літва ўжо заявіла пра тое, што не будзе набываць у Беларусі энергію з Астравецкай АЭС. На дадзены момант Літве пастаўляецца каля 700 МВт электраэнергіі з боку Швецыі па кабелях, што праклалі на дне Балтыйскага мора. Пры гэтым наша краіна-суседка актыўна будуе ветракі і сонечныя электрастанцыі. У іх ёсць некалькі ТЭЦ, уласная ГРЭС у горадзе Электрэнай і дзве гідраэлектрастанцыі — Круоніская і Каўнаская, а ў планах — будаўніцтва дзвюх ліній для сувязі з польскай энергасістэмай.

Незапатрабаваную электраэнергію маглі б спажываць аўтамабілі, грамадскі і чыгуначны транспарт, але іх патрэбы на дадзены момант складаюць толькі 100–150 МВт, і іх можна забяспечыць ужо сёння.

## Карані праблемы

У нашай краіне, на жаль, адсутнічае прагноз развіцця прамысловасці і спажывання энергарэсурсаў. У гэтай сферы абавязкова неабходны сістэмны падыход. Трэба вывучаць, колькі нам трэба, як на гэта будзе ўплываць наша сістэма энергазберажэння, як будзе змяняцца дэмаграфічная сітуацыя ў краіне і агульны ўзровень спажывання энергіі. Сыходзячы з гэтага сістэмнага падыходу ўжо можна было б паўнавартасна выбудоўваць палітыку энергазберажэння, развіцця энергетыкі, тарыфную і падатковую палітыку.

Але на сёння ў нас за гэтым сочаць толькі адзін бок, які робіць усё ў тайне ад грамадства і ні перад кім не трымае справаздачы.

# Аднаўляльная энергетыка — стымулы для інвестара губляюцца



Вольга ХВОІН

**Ці ёсць будучыня для аднаўляльнай энергетыкі ў Беларусі? На гэта ды іншыя пытанні адказвае выканаўчы дырэктар Беларускай асацыяцыі «Аднаўляльная энергетыка», дырэктар ТАА «Белветраэнерга» Уладзімір НІСЦЮК.**



Фота Вольгі Хвоін

***— У той час, як Еўропа ўсё больш актыўна прасоўвае аднаўляльную энергетыку, у Беларусі доля энергіі, атрыманай ад сонца, ветру і вады, не перавышае 6%. У чым прычына?***

— Праблема ў тым, што ў нас жахліва неэфектыўная пабудова энергетычнай палітыкі. Мы моцна залежым ад расійскага газу. Размова пра аднаўляльныя крыніцы энергіі (АКЭ) пачалася, калі кіраўнік дзяржавы паставіў задачу пазбавіцца ад гэтай залежнасці. Былі пастаўленыя задачы да 2030 года выйсці на максімальныя аб'ёмы энергіі, што атрымліваецца з мясцовых і аднаўляльных крыніц энергіі. Але ёсць невялікая хітрасць у гэтай фармуліроўцы, бо мясцовымі відамі энергіі ў нас з'яўляецца і торф (яго больш за 4 мільярды тон), і драўніна. Штогод лес прырастае на 25 мільёнаў кубаметраў, а мы высякаем на ўсе патрэбы 17–18 мільёнаў кубоў драўніны. Але драўніна, у адпаведнасці з законам 2010 года аб аднаўляльных крыніцах энергіі, адносіцца да АКЭ. Блытаніна ў гэтым пытанні не дае магчымасці дакладна ведаць сітуацыю.

З іншага боку, сусветны досвед паказвае, што немагчыма бязмежна развіваць альтэрнатыўную энергетыку. У Германіі, да прыкладу, цяпер круціцца 24 тысячы ветракоў, працуе 8,5 тысячы біягазавых комплексаў, 8 мільёнаў сонечных станцый. Масавае ўкараненне аднаўляльных крыніц цягне за сабой эканамічныя наступствы. Дзяржава ўзялася стымуляваць гэты кірунак, і цяпер ёй трэба мяняць падыход, уводзіць рэгуляванне.

***— Чаму ў Беларусі ўвялі квоты на аднаўляльную энергетыку? Прычына ў моцным нафтаперапрацоўчым лобі?***

— У нас занадта рана заняліся рэгуляваннем, бо задзейнічаная невялікая доля таго патэнцыялу, што можна было б выкарыстоўваць. Большасць гэтых аб'ектаў будуюцца за грошы тэхнічнай дапамогі ЕС, за сродкі інвестараў. Таму для дзяржавы менш адчувальна адбываецца развіццё аднаўляльнай энергетыкі.

Але з 5%, што прыходзіцца на АКЭ, менш за 1% — гэта выпрацаваная электраэнергія, усё астатняе — цеплавыя станцыі. Дзяржава хоча зберагчы свае грошы, а ствараць складаныя нарматыўныя акты для рэгулявання не гатовая. Напрыклад, ДВА «Белэнерга» павінна купляць электраэнергію з АКЭ па тарыфах з павышаючым каэфіцыентам. Гэтая розніца кладзецца на плечы энергетыкаў.

Я думаю, што квоты — не апошняе абмежаванне, чакае нас і змяншэнне тарыфаў.

Увядзенне квот на вытворчасць ужо паўплывала на інвестараў. Бо іх цяпер цікавіць, як атрымаць квоту. Я ім расказваю пра этапы працэдуры. А інвестар пытаецца, на колькі ж у выніку ён мусіць замарозіць свае грошы, колькі чакаць пасяджэння камісіі, якая квоты выдае. І разам з тым ёсць рызыка, што ён увогуле не атрымае дазволу на вытворчасць энергіі. Атрымліваецца, больш выгадна гэтаму інвестару паехаць у Грэцыю, паставіць там сонечную станцыю і зарабіць свае грошы. Усе стымулы губляюцца, калі няма гарантый, што ўмовы не зменяцца.

Абласныя структуры Мінэнерга як манапалісты часта пачынаюць абкладваць своеасаблівай данінай тых, хто ўсталёўвае аўтаномныя крыніцы энергіі. Быў у Магілёве выпадак, калі мне паскардзіліся, што мясцовыя энергетыкі запатрабавалі, каб ім адрамантавалі трансфарматарную падстанцыю, правялі лінію. Але ёсць закон аб аднаўляльных крыніцах энергіі, у якім сказана, што энергасеткі павінны прадставіць да падключэння бліжэйшую кропку. Мінэнерга не хавае, што ў іх няма грошай, каб плаціць за ўзрастаючыя аб'ёмы энергіі па тых каэфіцыентах, што ёсць. Квоты — адна з тых жа прычын, каб справіцца з гэтай праблемай.

***— Наколькі даступна сёння набыць для ўласнага карыстання ўстаноўку для вытворчасці энергіі з аднаўляльных крыніц?***

— Калектары для нагрэву вады даўно сталі бюджэтнымі. У межах 600 долараў цалкам магчыма набыць гатовы камплект абсталявання. Сонечныя станцыі на сёння абыходзяцца танней, чым ветрапаркі.

Адзін з нашых сябраў асацыяцыі будуе «пад ключ» у Магілёўскай вобласці сонечную

# Развіваем узнаўляльную

Алесь ЧАРНЯК

**«Зялёная энергетыка» можа працаваць на сістэму, але пакуль не можа ствараць сістэму. Такім меркаваннем падзяліўся эксперт у галіне энергетыкі Аляксандр Малькоў.**



Пачнём з дэфініцый: да аб'ектаў узнаўляльнай энергетыкі адносяць энергакрыніцы, якія выпрацоўваюць электрычнасць за кошт энергіі ветру, сонца, вады і біямасы. Аляксандр Малькоў кажа, што на сённяшні дзень з РУП «Белэнерга» заключана 19 дамоваў на пакупку энергіі з ветраўстановак (на 48 МВт усе разам), 33 дамовы на сонечныя станцыі (супольна 13 МВт). А ў межах «Белэнерга» самым буйным аб'ектам узнаўляльнай энергетыкі з'яўляюцца ветрапарк у Грабніках (9 МВт) і Гродзенская ГЭС (17 МВт). З прыватных праектаў найбольш буйныя сонечныя станцыі ў Брагінскім (20 МВт) і Мядзельскім (5,7 МВт) раёнах.

У Беларусі ёсць закон аб узнаўляльных крыніцах энергіі, які стымулюе развіццё «зялёнай энергетыкі» — прадугледжвае больш высокія тарыфы на закупку такой энергіі. Але разам з тым, у адпаведнасці з леташнімі ўказам №209 і пастановай Савета міністраў № 662, стварэнне новых, мадэрнізацыя, рэканструкцыя дзеючых установак па выкарыстанні аднаўляльных крыніц энергіі кватуецца. Чым тлумачыцца такое кватаванне?

Па словах эксперта, квоты вырашаюць праблему таго, што закон пра ўзнаўляльную энергетыку стварыў празмерна моцныя прэферэнцыі для развіцця гэтага сектара, і ў сувязі з гэтым атрымаўся вялікі вал заявак на падключэнне.

«То бок, гэты кірунак зрабіўся не проста выгадным, а вельмі моцна выгадным для прыватных інвестараў. І вал заявак быў прыстойны, супастаўны па магутнасці з буйным энергаблокам ЦЭЦ — больш за 600 МВт», — тлумачыць Аляксандр Малькоў.

Паводле эксперта, у Беларусі магутнасцяў хапае, уводзіцца атамная станцыя, і таму «такая колькасць узнаўляльнай энергетыкі ў энергабалансе пакуль не запатрабаваная». «Нерацыянальна яе ўключаць у баланс, бо для яе адаптацыі ў балансе таксама патрабуюцца затратныя мерапрыемствы — станцыі па рэгуляцыі, гідраакумуляцыі, назапашвальнікі таго або іншага тыпу», — кажа Аляксандр Малькоў.

Ён звяртае ўвагу, што ўведзеныя нарматыўнымі актамі квоты не распаўсюджваюцца на выпрацоўку для ўласнага спажывання. «Гэта квоты толькі для тых, хто будуе аб'екты ўзнаўляльнай энергетыкі з мэтай продажу энергіі», — падкрэсліў ён.

Трэба зазначыць, што рэгулятар (Мінэканомікі, Саўмін) усталяваў для ДВА «Белэнерга» больш высокія тарыфы на закупку «зялёнай энергіі», чым традыцыйнай, што вядзе да перакрыжаванага субсідавання. Акрамя таго, энергазабеспячальныя арганізацыі абавязаныя закупляць «зялёную энергію» ў вытворцаў у сярэднім па 40 цэнтаў ЗША / кВт-г., у той час як адпускны тарыф для спажыўцоў складае прыкладна 6 цэнтаў ЗША / кВт-г.

Цяжар выдаткаў ад розніцы тарыфаў на пакупку і продаж такой электрычнасці кладзецца на арганізацыі «Белэнерга», і яны вымушаныя з гэтай прычыны скарачаць нейкія свае праграмы рамонту, пераабсталявання і інш.

У Беларусі, у адрозненне ад некаторых іншых краін, не прадугледжваецца магчымасць куплі «зялёнай энергіі» ад фізічных асоб (не індывідуальных прадпрымальнікаў, не юрыдычных асобаў). Пры гэтым прыватная асоба мае права ў сябе на даху дома або на падвор'і размясціць магутнасці, якія вырабляюць энергію, для таго, каб пакрыць патрэбы сваёй гаспадаркі, а таксама скараціць выдаткі на аплату (парады, як гэта зрабіць, ёсць на сайце ДВА «Белэнерга».

Чаму грамадзянам у Беларусі не дазволілі вырабляць «зялёную энергію» на продаж, Аляксандр Малькоў дакладна не ведае. На яго думку, гэта можа быць звязана з тым, што ў нашай краіне пакуль няма канкурэнцыі збытавых энергакампаній, уласна кажучы, няма вольнага рынку ў гэтай сферы. Таксама эксперт сумняваецца, што прыватная асоба наўрад

станцыю на 3 МВт за тры мільёны еўра. Ветрагенератары будуць з разліку 1 МВт — 1,3 мільёна еўра капіталаўкладанняў.

Наша асацыяцыя сёння стварыла каманду, якая на практыцы выконвае падобныя работы, то бок «круціць гайкі». Мы вядзём перамовы з Навагрудскім агратэхнічным каледжам, каб пачаць навучанне па новай спецыяльнасці, звязанай з сучаснымі энергазберагаючымі тэхналогіямі. Плануецца, што ў 2017 годзе яны набяруць людзей, у 2021 годзе выпусцяць першых спецыялістаў. Замежныя рабочыя дорага каштуюць, а попыт на такія паслугі ўжо ёсць.

На 2017–2018 гады ёсць задача сысці ад перакрыжавальнага субсідзіравання, і на грамадзян ускласці поўны аб'ём аплаты за энергію і камунальныя паслугі. Гендырэктар «Белтопгаза» заявіў, што ўжо ў 2017 годзе чакаецца падвышэнне цэнаў на газ для спажыўцоў, і ў некаторай ступені цэны будуць зніжаны для прадпрыемстваў. Таму сёння для грамадзян мэтазгодна мець асабістыя так званыя гібрыдныя ўстаноўкі — вятрак, сонечная батарэі і акумулятар.

Кітай і ЗША сталі лідарамі ў распрацоўцы і вытворчасці тэхналагічных установак для выпрацоўкі альтэрнатыўных відаў энергіі. Адпаведна, усё гэта становіцца таннейшым і даступным.

Агулам я гляджу аптымістычна на перспектывы развіцця альтэрнатыўнай энергетыкі. Бо ў гэтым ёсць адзін важкі бок — экалагічны.

Парыжская дэкларацыя, якую падпісалі 170 дзяржаў, у тым ліку і наша, прадугледжвае выйсці да 2020 года на баланс прадукавання і паглынання шкодных выкідаў. На сёння ў нас выкіды штогод складаюць каля 90 мільёнаў тон, і толькі блізу 25 мільёнаў тон паглынаецца за кошт балот, лясоў. Ёсць два выхады — павялічваць аб'ёмы зялёных пасадак ці скараціць выкіды. Другі шлях больш прывабны і танны.

Да гэтага нас падштурхоўвае час. А Мінэнерга мусіць не толькі рэгуляваць працэс, але і пралічваць наступствы. Калі сёння яны дадуць санкцыю на павелічэнне тарыфаў, то трэба разумець, што людзі пачнуць шукаць альтэрнатыўныя крыніцы энергіі — і знойдуць.

У нас ёсць і забяспечаныя асобы, якія з задавальненнем прымаюць новыя тэхналогіі. Еўрасаюз таксама падштурхоўвае да гэтага, калі ўхваляе праекты тэхнічнай дапамогі для развіцця зялёнай энергетыкі. Напрыклад, у Навагрудку паставілі сонечныя калектары на дзіцячым садку — цяпер яго ўнутраныя патрэбы ў цёплай вадзе, басейн забяспечваюцца за кошт уласных крыніц.

Мы вядзем перамовы з цэрквамі — ім трэба хрысціць дзяцей, то чаму б не паставіць сонечную панель, каб заўсёды была цёплая вада? І ўжо ёсць прыклады рэалізацыі падобных прапаноў.

У нас ёсць намер сумесна з Рэспубліканскім інстытутам прафесійнай адукацыі стварыць на базе «Рэсурснага цэнтру ЭкаТэхнаПарк — ВОЛМА» РІПА» рэгіянальны міжгаліновы цэнтр падрыхтоўкі і падвышэння кваліфікацыі кадраў у сферы экалогіі, энергазберажэння, энергетыкі. На стварэнне гэтага цэнтра з тэхнічнай дапамогі ЕС выдзелена каля 3 мільёнаў еўра для закупкі адукацыйнага абсталявання.

«Волма» цяпер набывае іншы выгляд і будзе мець іншае сэнсавае напаўненне. Мяркуецца, што адкрываць гэты цэнтр будзем у сакавіку наступнага года. Міністэрства адукацыі за бюджэтныя грошы накіруе першых вучняў.

***— А якія ўзнаўляльныя крыніцы маюць больш патэнцыял для выкарыстання ў нашых эканамічных і кліматычных умовах?***

— Безумоўна, ветраэнергетыка. Цяпер устаноўленая магутнасць ветракоў — 48,57 МВт. Але, як кажуць, «не маем гербавай паперы, таму пішам на звычайнай». Беларускія энергетыкі сёння пішуць на звычайнай паперы, то бок набываюць ветрагенератары, якія ўжо былі ў выкарыстанні. З 61 генератара, што круцяцца ў краіне, менш за дзясятак новых. Яны хутка акупляюцца, выгодныя з эканамічнага боку. Нашы фірмы рыхтуюць уласнікам установак маніторынг ветру, дапамагаюць рабіць мантаж. Мы дэманструем, што ў краіне ёсць патэнцыял ветру.

У Навагрудку ў 2010 годзе з'явіўся першы вятрак на 1,5 МВт. Мы лічылі эканоміку — і апынулася, што найбольш выгодна паставіць кітайскі генератар. Сумневаў было многа. Але вынікі пераўзышлі ўсе чаканні. Каэфіцыент адбору магутнасці ветравога кола — каля 33%, у той час як у Германіі на шэльфе гэты паказчык складае каля 23–25 %.

Дзяржава паставіла там яшчэ ветракі. Цяпер там агулам працуе дзевяць ветракоў, энергія ідзе ў агульную сетку.

Еўрапейцы звярнулі ўвагу на гэты ветрапарк. І з тэхнічнай дапамогі, што дае Еўракамісія, былі вылучаныя грошы на ўстаноўку ў тым жа рэгіёне ветрака на 2,5 МВт магутнасцю. Такія магутнасці на постсавецкай прасторы няпроста знайсці.

Сонечныя электрастанцыі таксама паспяхова выкарыстоўваюць. І трэба ведаць, што іх праца залежыць ад сілы сонечнай радыяцыі, а не ад колькасці сонечных дзён. Нават у пахмурныя дні сонечныя станцыі даюць вынік. Інвестары зацікаўленыя гэтым напрамкам.

Ведаю, што «Беларуснафта» збіраецца будаваць у Гомельскай вобласці сонечную станцыю на 50 Мвт, Velcom — станцыю на 20 МВт. Яны кампенсуюць свае траты на энергію. Беларуская чыгунка ставіць у сваіх дэпо сонечныя калектары для нагрэву вады. Мы ўсцешаныя, што людзі, якія маюць сродкі, інвестуюць у аднаўляльную энергетыку.

***— Досвед якой краіны ў галіне аднаўляльнай энергетыкі для Беларусі найбольш прывабны?***

— Найбольш удалы і прымяняльны для Беларусі досвед Германіі. Краіны знаходзяцца ў адным кліматычным поясе, прыкладна аднолькавыя ўмовы для сонца і ветру. На жаль, у нас чыноўнікі не заўсёды аб'ектыўна і прафесійна ацэньваюць сітуацыю. Некаторыя не ведаюць нават закон Ома — адкуль і куды гэты ток бяжыць. І пры гэтым бяруць на сябе смеласць рабіць заключэнні. Напрыклад, у часе падрыхтоўкі Дырэктывы №3 напісалі, што геатэрмальнай энергетыкі ў Беларусі не можа быць. Бо ёсць толькі дзве кропкі — у Гомельскай і Брэсцкай абласцях, дзе, зрабіўшы свідравіны на 1,5 км, можна атрымаць гарачыя пар і ваду. Але трэба разумець, што геатэрмальная энергія — гэта нізкапатэнцыйная энергія вады, паветра, каналізацыйных сцёкаў. І гэтая энергія сёння ўлоўліваецца ды накіроўваецца ў патрэбным рэчышчы. Сёння сістэма вентыляцыі прадугледжвае стварэнне рэкуперацыйных установак, якія дазваляюць пускаць у другасны абарот цяпло гэтых дамоў. Праўда, тут ёсць яшчэ адна праблема, калі людзі не хочуць гэтымі пытаннямі «замарочвацца» і адкрываюць фортку на праветрыванне, як гэта рабілася і сто гадоў таму. Патрэбна вялікая асветніцкая праца.

***— Наколькі лёгка знайсці інвестараў?***

— Інвестыцыі патрэбныя сур'ёзныя, таму часцей гэта заходнія капіталы. Але агучу вам, хіба, новую для краіны ідэю. Мы вывучаем пытанне наконт прыцягнення да будаўніцтва аб'ектаў энергетыкі грамадскіх грошай. Напрыклад, ці магчыма паставіць у Маладзечна ветрагенератар, які будзе мець 200 акцыянераў, а 190 з іх гэта будуць прыватныя асобы? Мы гэта пакуль у тэорыі разглядаем. У нас няма паўнавартаснага рынку каштоўных папер, хаця гэта было б добрым стымулам. Праўда, ёсць закон аб дзяржаўна-прыватным партнёрстве. І ў ім прапісана, што дзяржава можа з бізнесам удзельнічаць у камерцыйных праектах.

Іншая справа, па-першае, што досведу такога няма, па-другое, закон ужо працуе, а механізм яго рэалізацыі яшчэ не распрацаваны. Па-трэцяе, чыноўнікі баяцца, бо правяраючыя шукаюць, за што зачапіцца... Але ўсё мяняецца. Нам патрэбнае яснае заканадаўства, якое б давала гарантыі для ўпэўненай працы.

**Даведка:**

**Аднаўляльныя крыніцы энергіі (АКЭ) для атрымання цеплавой энергіі:**
На драўніне — 3 122 аб'екты на 260 МВт;
Цеплавыя насосы — 108 на 3,9 МВт;
Геліяводанагравальнікі — 224 на 2,4 МВт.

**Агулам** 3 454 аб'екты на 266,3 МВт

**АКЭ, якія генеруюць электрычнасць:**
Сонечныя станцыі — 83 на 13,37 МВт;
Біягазавыя ўстаноўкі — 32 на 37,2 МВт;
Ветраэнергетычныя ўстаноўкі — 61 на 48,57 МВт;
Гідраэлектрастанцыі — 57 на 34,04 МВт.

**Агулам** 233 аб'екты на 133,17 МВт

# энергетыку ў межах магчымага

ці можа гарантаваць якасць і аб'ём пастаўкі электраэнергіі. «Калі чалавек хоча так прагрэсіўна свой дом абсталяваць устаноўкай па вырабу электраэнергіі з дапамогай ветру або сонца, то ён можа гэта зрабіць», — пераконвае эксперт.



Што ж тычыцца спробаў прадставіць «зялёную энергетыку» альтэрнатывай «атамнай», то тут Аляксандр Малькоў выказваецца вельмі скептычна. На яго думку, усе акумулюючыя магутнасці сонечных і ветравых станцый даюць праект для энергасістэмы больш дарагі, чым АЭС, бо патрэбна вырашаць праблему зніжэння колькасці вырабу энергіі ноччу або калі будзе сціхаць вецер.

«Прыклад Крыма, калі ён быў адрэзаны ад энергасістэмы Украіны, паказаў, што пры наяўнасць 300 МВт ветра-сонечных установак (яны маглі выпрацоўваць 1/4 усёй электраэнергіі Крыма), не атрымалася захаваць энергасістэму без працы ЦЭЦ. Яны (аб'екты ўзнаўляльнай энергетыкі. — рэд.) могуць працаваць на сістэму, якая стабільна працуе. Яны могуць дадаваць энергію ў сістэму, але самі сістэму стварыць не могуць. Крым даказаў, што вецер і сонца не з'яўляюцца крыніцай энергабяспекі», — кажа Аляксандр Малькоў.

Што тычыцца значэння АЭС для нацыянальнай энергабяспекі Беларусі, то, як адзначае эксперт, тут няма рубільніка, які можа імгненна адключыць пастаўшчык газу, — прыгадайма беларуска-расійскія «газавыя войны».

«Многія эксперты кажуць, што ў нас паліва для атамнай энергетыкі таксама расійскае, але паліва загружаецца і дзейнічае пэўны працяглы перыяд часу — паўтара года да перазагрузкі. За гэты час можна вырашыць шматлікія перагаворныя пытанні, гэта значыць, яно валодае вялікім часовым лагам, чым не валодаюць іншыя крыніцы энергіі», — кажа Аляксандр Малькоў.

Паводле яго слоў, асноўны ўпор у развіцці «зялёнай энергетыкі» ў Беларусі зроблены на гідраэлектрастанцыі. Але ў нас няма горных рэк, таму ёсць абмежаванні па магчымасці вырабу электраэнергіі з вады — 400 МВт тэхнічна магчымыя, і каля 200 МВт — эканамічна абгрунтаваныя.

Да плюсаў гідраэлектрастанцый можна аднесці прадказальнасць іх працы і стабільную выпрацоўку энергіі — у адрозненне ад «зялёнай энергетыкі», заснаванай на энергіі сонца або ветру.

Адна з праблем развіцця «зялёнай энергетыкі» (за выключэннем ГЭС і біягазавых установак) у тым, што не вырашанае пытанне з акумуляцыяй электраэнергіі. Аляксандр Малькоў лічыць, што галоўным тэхнічным прарывам нашага стагоддзя будзе вынаходніцтва меганакапляльніка, які за долю секунды будзе мегават-гадзіны энергіі назапашваць і за тыя ж долі секунды аддаваць.

«Калі такі накапляльнік будзе вынайдзены — гэта сапраўды істотна пераверне становішча спраў у энергетыцы. Тады тыя краіны, хто развівалі ўзнаўляльную энергетыку калі не ў шкоду эканоміцы, то прэферэнцыйныя, — яны ў гэты момант выйдуць наперад. Гэта з галіны фантастыкі, але я як энергетык бачу такую тэндэнцыю. Тады гэты меганакапляльнік зможа працаваць з ветра- і сонцастанцыямі, і тады, мне здаецца, яны створаць сістэму разам».

Існуе меркаванне, што ў Беларусі «зялёную энергетыку» не тое, каб глушаць, але ёй не даюць развівацца. Аляксандр Малькоў не згодны з такой пастаноўкай пытання. На яго думку, «зялёнай энергетыцы» даюць развівацца роўна ў той ступені, наколькі наша краіна з яе ўзроўнем развіцця тэхнікі і тэхналогій можа спажыць. «Маленькімі крокамі, у межах нашых магчымасцяў, але мы яе таксама развіваем», — кажа эксперт.

# АЭС ці ветрагенератар?

Аляксей ХАРКЕВІЧ

**Для таго, каб аддзяліць рэальнае становішча рэчаў ад прапаганды, разгледзім сучасны стан энергетычнай сістэмы на спрошчаным, але зразумелым для большасці ўзроўні.**

## Усё, што трэба ведаць

Вылучым чатыры паняцці, якія з'яўляюцца ключавымі для разумення энергетычнай сістэмы Беларусі.

Устаноўленая магутнасць энергасістэмы — намінальная актыўная магутнасць генератараў электрычных станцый. То бок, гэта той аб'ём магутнасці, які гіпатэтычна здольная выдаць уся энергасістэма краіны. Гэты параметр толькі ўскосна характарызуе энергетычную сістэму, паколькі ў рэальнасці ўся магутнасць генератараў электрычных станцый не выкарыстоўваецца. Аднак парадокс палягае ў тым, што менавіта гэты паказчык бярэцца за адпраўны пункт пры прыняцці рашэнняў пра ўвод новых магутнасцяў.

Максімальная нагрузка ў энергасістэме — фактычная пікавая магутнасць у энергасістэме. Да цяперашняга часу максімальная нагрузка ў беларускай энергасістэме не перавышала 6554 МВт. У рэзерве ў нас знаходзяцца больш за 2300 МВт магутнасцяў, што складае больш за 35% ад максімальнай патрэбы.

Рэзерв магутнасцяў мае ключавое значэнне для энергасістэмы. У выпадку аварыйнага спынення энергаблокаў патрэбна за кароткі час аднавіць планавую магутнасць энергасістэмы. Для гэтай мэты прадугледжана ўтрыманне гарачага і халоднага рэзерваў, велічыня кожнага з якіх, у адпаведнасці з існуючымі нарматывамі, роўная магутнасці самага буйнога блока ў энергасістэме.

З уводам у эксплуатацыю першага блока Беларускай АЭС у 2018 годзе памер халоднага і гарачага рэзерву павінен быць павялічаны да 1200 МВт. А ў 2020 годзе, пасля дасягнення сумарнай магутнасці АЭС 2388 МВт, агульную магутнасць, якая знаходзіцца ў рэзерве, плануецца давесці да 3300 МВт за кошт падтрымання ў працаздольным стане і выкарыстання часткова адпрацаваўшых свой тэрмін блокаў на Лукомльскай ГРЭС, а таксама іншых магутнасцяў на дзейсных электрастанцыях.

Спажыванне электраэнергіі — сумарны назапашаны аб'ём спажытай электраэнергіі за год. Калі нагрузка ў энергасістэме пастаянна змяняецца ў залежнасці ад часу сутак, сезоннасці і многіх іншых фактараў, то сумарны гадавы аб'ём спажывання электраэнергіі звязаны з тэмпамі развіцця эканомікі. Спажыванне электраэнергіі — вельмі важны паказчык, паколькі менавіта ад яго залежыць акупнасць інвестыцый, звязаных з увядзеннем новых энергетычных магутнасцяў.

Максімальны аб'ём спажывання ў Беларусі быў дасягнуты ў 2012 годзе і склаў 38,4 мільярда кВт-г. Крызіс беларускай эканомікі прывёў да скарачэння сукупнага спажывання электраэнергіі да 36,8 мільярда кВт-г.

Спажыванне энерганосьбітаў — гадавы расход паліва, неабходнага для функцыянавання энергетычнай сістэмы. Менавіта праблема паліва з'явілася краевугольным каменем распрацоўкі канцэпцыі энергетычнай бяспекі Беларусі. На сённяшні дзень прыкладна 96% паліва, якое выкарыстоўваецца ў беларускай энергетыцы, — гэта прыродны газ, што пастаўляецца з Расіі. Фактычна гэта азначае поўную залежнасць беларускай энергасістэмы ад палітыкі Масквы.

Акрамя гэтага да зменаў у энергетычнай сістэме краіны падштурхоўвала неабходнасць мадэрнізацыі старых і нізкаэфектыўных энергетычных магутнасцяў. Мадэрнізацыя аб'ектыўна наспела. Аднак погляды на тое, як яе праводзіць, дыяметральна разышліся.

## Эвалюцыя або рэвалюцыя?

Эвалюцыйны шлях — зялёная энергетыка. Асноўным стрымліваючым фактарам развіцця аднаўляльнай энергетыкі з'яўляўся адносна высокі кошт выработанай энергіі. Аднак тэхналогіі імкліва ідуць наперад, і ў некаторых краінах ужо сёння сабекошт альтэрнатыўнай энергіі зраўняўся з коштам вугальнай і газавай энергіі. Асаблівыя надзеі звязваюцца з развіццём сонечнай энергіі, якая ў дастатку маецца і ў Беларусі.

Аднаўляльная энергетыка дазваляе павялічваць энергетычныя магутнасці невялікімі тэмпамі, прычым без велізарных інвестыцыйных выдаткаў. Напрыклад, кошт будаўніцтва сонечнай электрастанцыі ў Брагінскім раёне Гомельскай вобласці максімальнай магутнасцю 22,7 МВт складае прыкладна 22 мільёны долараў. Пры ўмове 30% эфектыўнасці стварэнне 1 МВт магутнасці сонечнай энергіі будзе каштаваць каля 3 мільёнаў долараў.

Рэвалюцыйны шлях — атамная энергетыка. Сабекошт вытворчасці атамнай энергіі на сённяшні дзень прынята лічыць найбольш танным. Але ўсё не так проста. За магчымасць вытворчасці таннай энергіі




**Малюнак 1. Прагноз Міністэрства энергетыкі Рэспублікі Беларусь па спажыванні электрычнай энергіі і максімальнай нагрузцы ў энергасістэме**

неабходна нямала заплаціць. У нашым выпадку ўвод у эксплуатацыю абыдзецца прыкладна ў $10 мільярдаў, з якіх больш за паўмільярда пойдуць толькі на інтэграцыю АЭС у баланс існуючай энергасістэмы. У выніку стварэнне 1 МВт магутнасці атамнай энергіі абыдзецца ў 4,2 мільёна долараў, гэта значыць, на 40% даражэй, чым сонечнай.

Прыхільнікі будаўніцтва АЭС заяўляюць, што сабекошт вытворчасці атамнай электраэнергіі будзе ў 1,5–2 разы ніжэй у параўнанні з цеплавымі станцыямі. Аднак параўнальна

**Паколькі сёння сабекошт вытворчасці электраэнергіі на ГРЭС складае менш за 6 цэнтаў, гэта азначае, што без павелічэння тарыфаў на электраэнергію будаўніцтва АЭС не акупіцца ніколі**

нізкі сабекошт зусім не азначае акупнасць праекта.

Для доказу можна зрабіць стандартныя разлікі, якія прымяняюцца пры распрацоўцы інвестыцыйных праектаў, выкарыстоўваючы тыя дадзеныя, якія мы ведаем пра будучую АЭС, а менавіта:

— Гадавы аб'ём вытворчасці электраэнергіі пасля выхаду на поўную магутнасць — 7,1 мільярда кВт-г.;

— Тэрмін эксплуатацыі АЭС — 50 гадоў.

Калі ўлічваць унутраныя нормы прыбытковасці, можна сказаць, што акупнасць АЭС праз 50 гадоў пры стаўцы дыскантавання 2% гадавых адбудзецца ў тым выпадку, калі прыбытак, пры атрыманні 1 кВт-г. складзе 4,5 цэнта.

Але пры ўмове захавання тарыфаў на электраэнергію дадатковы прыбытак лагічна звязаць з розніцай паміж цяперашнім сабекоштам вытворчасці электраэнергіі і будучым сабекоштам вытворчасці энергіі на АЭС. Паколькі сёння сабекошт вытворчасці электраэнергіі на ГРЭС складае менш за 6 цэнтаў, гэта азначае, што без павелічэння тарыфаў на электраэнергію будаўніцтва АЭС не акупіцца ніколі.

Нагадаем, што для функцыянавання АЭС неабходна ствараць гарачы і халодны рэзерв. Падтрыманне халастой працы старых генерацыйных магутнасцяў таксама павялічыць сабекошт выработанай энергіі.

Стаўшы на шлях развіцця атамнай энергетыкі, беларускія ўлады апынуліся перад складанай дылемай: альбо павялічваць тарыфы на электраэнергію, ствараўшы каласальныя праблемы для беларускіх вытворцаў, альбо ўсяляк стымуляваць аб'ёмы спажывання электраэнергіі ўнутры краіны.

## Прагноз коштам у мільярды

Чаму ж так атрымалася, што пры распрацоўцы канцэпцыі энергетычнай бяспекі быў зроблены выбар на карысць вельмі дарагога, неэфектыўнага і такога непапулярнага ў грамадстве праекта, як будаўніцтва АЭС?

Уся справа ў асаблівасцях беларускай эканамічнай мадэлі. Распрацоўшчыкі праграмы, падобна, сур'ёзна верылі ў пастаянны рост беларускай эканомікі. У 2007 годзе яны прагназавалі, што патрэба ў электраэнергіі ў Беларусі да 2015 года складзе 42,5 мільярда кВт-г., а да 2020-га — 47,1 мільярда кВт-г. Пікавая магутнасць сістэмы, паводле прагнозаў, у 2015 годзе павінна была скласці 7335 МВт, а да 2020 года — 8128 МВт.

І нават тады, калі ў 2009 годзе беларуская эканоміка сутыкнулася з першымі сур'ёзнымі праблемамі, ні ў каго не хапіла смеласці згарнуць яшчэ не пачаты неэфектыўны праект. Затое ў 2016 годзе прагнозы аказаліся нашмат больш прыземленымі (малюнак 1).

Такім чынам, цяперашнія аптымістычныя планы спажывання і максімальнай нагрузкі ў энергасістэме адрозніваюцца ад прагнозаў дзесяцігадовай даўнасці на 20%.

Сёння больш лагічным выглядае не нарошчванне энергетычных магутнасцяў за кошт АЭС, а менавіта дыверсіфікацыя за кошт актыўнага выкарыстання аднаўляльных крыніц энергіі.




**Табліца 1. Плануемы працэнт аднаўляльных крыніц энергіі ў вытворчасці электраэнергіі ў Рэспубліцы Беларусь у 2015–2020 гг.**

## Перспектывы аднаўляльнай энергетыкі

Што ж сёння чакае аднаўляльную энергетыку ў Беларусі? На першы погляд можа стварыцца ўражанне, што развіццё аднаўляльных крыніц энергіі ўсё яшчэ застаецца ў якасці прыярытэту. У краіне прыняты закон «Аб аднаўляльных крыніцах энергіі», Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь вядзе кадастр аднаўляльных крыніц энергіі, для юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў, якія маюць намер усталяваць установкі па выкарыстанні аднаўляльных крыніц энергіі, дзеюць пэўныя льготы.

Аднак калі прыглядзецца больш уважліва, то становіцца відавочным, што развіццё зялёнай энергетыкі пачынае адсоўвацца на другі план.

Згодна з новай канцэпцыяй энергетычнай бяспекі Беларусі, вызначана, што планавы працэнт вытворчасці (здабычы) энергіі з аднаўляльных крыніц будзе павялічвацца на 1 працэнтны пункт кожныя пяць гадоў, склаўшы да 2035 годзе ўсяго 9%. Гэта пры тым, што нармальны ўзровень паказчыка ўстаноўлены ў памеры 15%.

Працэнт аднаўляльных крыніц энергіі ў агульным аб'ёме вытворчасці электраэнергіі да 2020 года плануецца павялічыць усяго да 2,4%.

У 2015 годзе прадпрымальнікаў, якія займаюцца вытворчасцю аднаўляльнай энергіі, чакалі адразу два сюрпрызы. З аднаго боку, Міністэрства эканомікі знізіла тарыфы на куплю электрычнай энергіі, што выпрацоўваецца з аднаўляльных крыніц. У прыватнасці, было ўстаноўлена, што праз 20 гадоў купля будзе ажыццяўляцца толькі прыкладна за палову тарыфу, устаноўленага для прамысловасці. А з другога боку, указам прэзідэнта былі ўведзены квоты на будаўніцтва ўстановак, якія выкарыстоўваюць аднаўляльныя крыніцы энергіі. Арганізацыі, якія не здолелі патрапіць у квоты, цяпер адразу вымушаныя прадаваць электраэнергію на 30% таннай тарыфу, устаноўленага для прамысловасці.

Усталяванне такіх мер сведчыць пра тое, што дзяржава больш не жадае стымуляваць масавае развіццё альтэрнатыўнай энергетыкі. Магчымая падстава для такога рашэння — выкліканая пабудовай Беларускай АЭС празмернасць магутнасцяў энергасістэмы, што чакае нас у будучыні. Усё гэта сведчыць, што будаўніцтва АЭС было самай вялікай эканамічнай памылкай у суверэннай гісторыі Беларусі.

Алег НОВІКАЎ

**Тэрарысты «Ісламскай дзяржавы» мараць пра ядзерную зброю — наконт гэтага шмат разважанняў у заходняй прэсе. Між тым, эксперты лічаць, што еўрапейскія АЭС не менш небяспечныя для грамадства, чым ядзерная зброя экстрэмістаў.**


Фота www.im1.kommersant.ru

# АЭС больш небяспечная, чым бомба

**Дастаткова кінуць звычайную гранату, каб чуткі пра выбух на атамнай станцыі справакавалі масавую паніку сярод насельніцтва**

Апошнія медыя-інсінуацыі пра бомбу «made in ISIS» мелі месца напярэдадні адкрыцця цяперашняй Алімпіяды. У пачатку жніўня бульварная прэса Захаду падзялілася сенсацыйнай навіной пра тое, што ў Рыа з Блізкага Усходу тайна транспартуюць так званую «брудную бомбу», якая выбухне ледзь не падчас урачыстай цырымоніі адкрыцця Гульняў.

Хаця знешне ўсё гэта было падобна на журналісцкую плётку, па слядах публікацый у Бразіліі прайшла агульнанацыянальная паліцэйская антытэрарыстычная аперацыя. Гледзячы па ўсім, шукалі таксама і гэтую бомбу. Інакш нашто паліцыя пазычыла ў Міжнароднага атамнага агенцтва спецыяльныя дэтэктары, якія дапамагаюць выявіць наяўнасць радыяцыі? Бомбу ў выніку не знайшлі, аднак наўрад ці чуткі пра тое, што тэрарысты вось-вось атрымаюць ядзерны арсенал, узнікнуць проста так.

Між тым, як лічаць эколагі, тэма «бруднай бомбы» ў руках ісламскіх тэрарыстаў дастаткова спекулятыўная. Тут некалькі прычын. Нават калі «Ісламская дзяржава» атрымае «брудную бомбу», няма гарантый, што выбух адбудзецца ў патрэбным месцы і ў патрэбны час. Механізм у такіх прыладаў вельмі не надзейны, і можа спрацаваць проста на базе тэрарыстаў. Існуюць тэхнічныя праблемы дастаўкі такой зброі ў Еўропу. Нарэшце, спецслужбам лёгка зразумець логіку злачынцаў і зрабіць адпаведныя захады, каб сарваць іх планы. Напрыклад, адмыслоўцы рэкамендуюць узяць пад кантроль навуковыя цэнтры ў экс-СССР і шэрагу азіяцкіх краін, кшталту Пакістана, супрацоўнікі якіх праз невялікія заробкі могуць прадаць ядзерныя матэрыялы і тэхналогіі «налева».

Хутчэй за ўсё, тэрарысты могуць зацікавіцца ўжо існуючымі атамнымі аб'ектамі ў Еўропе. Што яны, дарэчы, ужо робяць. Пасля сакавіцкіх тэрактаў у Брусэлі паліцыя па ходзе следства высветліла, што іх арганізатары актыўна шукалі доступ на тэрыторыю мясцовых АЭС (у Бельгіі працуе дзве атамныя станцыі — «Duel» і «Tihange»).

Вядома, што браты эль-Бакры, якія сталі за тэрактамі, забілі супрацоўніка аховы «Tihange», каб атрымаць яго электронны пропуск, з якім можна было бесперашкодна прайсці на атамны аб'ект. У паліцэйскай зводцы спачатку гэта забойства праходзіла як «спроба рабавання», аднак у кантэксце тэракту 22 сакавіка яго перакваліфікавалі як «падрыхтоўку да атакі на АЭС». Таксама стала вядома, што экстрэмісты на працягу некалькіх месяцаў сачылі за галоўным ядзершчыкам Бельгіі, а праваахоўнікі сцвярджаюць, што даўно ведалі: тэрарысты рыхтуюць дыверсіі на атамных электрастанцыях.

Апісаны інцыдэнт выклікаў вялікія дэбаты наконт перспектыў развіцця атамнай энергетыкі ва ўмовах росту тэрарыстычных пагроз. Тым больш, што падчас дэбатаў узнік дадатковы важны аспект праблемы. Так, арганізацыя «Nuclear Threat Initiative» агучыла тэзіс: тэрарыстам нават не трэба рабіць на тэрыторыі цяперашніх АЭС нешта жудаснае. Дастаткова кінуць звычайную гранату, каб чуткі пра выбух на станцыі справакавалі масавую паніку сярод насельніцтва, якое не ведае дэталяў злачынства і сапраўдных маштабаў яго наступстваў.

Такая рэакцыя публікі звязаная з тым, што атамныя станцыі маюць татальна адмоўную рэпутацыю ў грамадстве. На згаданых станцыях адбывалася шмат аварый, у выніку якіх нават даводзілася збіраць калегіум міністраў энергетыкі краін ЕС. Акрамя таго, у 2015 годзе ўлады Бельгіі вырашылі падоўжыць працу двух найстарэйшых блокаў на АЭС «Doel», у якіх скончыўся саракагадовы тэрмін іх тэхнічнай эксплуатацыі. Падоўжыць яшчэ на 10 гадоў — гэта значыць да 2025 года. Пры гэтым заканадаўцам давялося перадоліць уласныя абмежаванні на тэрмін службы атамных энергаблокаў, прыняўшы папраўку ў закон ад 2003 года, якая дазваляе двум рэактарам на «Doel», а таксама аднаму на станцыі «Tihange» працаваць да 50 гадоў.

Тая ж сітуацыя назіраецца і на іншых еўрапейскіх атамных аб'ектах. Па дадзеных міжнароднай арганізацыі «Greenpeace», з 151 дзеючага ў Еўропе рэактара (не ўлічваючы Расію) 67 працуюць ужо больш за 30 гадоў, 25 — больш за 35, і сем — больш за 40 гадоў. Атрымліваецца, што 44% еўрапейскіх рэактараў маюць «узрост» вышэй за 30 гадоў, а сярэдні — 29 гадоў. Пры гэтым варта адзначыць, што звычайна тэхнічная эксплуатацыя рэактараў разлічана ў дыяпазоне ад 30 да 40 гадоў.

«Гэты аналіз сведчыць, — адзначаецца ў справаздачы «Greenpeace», — пра магчымую эру ядзернай рызыкі ў Еўропе, калі ўрады еўрапейскіх краін не распачнуць захады, каб рэактары не працавалі за межамі свайго жыццёвага рэсурсу». Паколькі ва ўмовах крызісу гэта немагчыма, атамны сектар застаецца патэнцыйным дэтанатарам для выбуху масавага псіхозу.

З іншага боку, магчыма, сітуацыя не трагічная. Пра гэта ўскосна сведчыць досвед Украіны, дзе працуюць 4 атамныя электрастанцыі з 15 энергаблокамі. Нягледзячы на буйны рост крымінагеннай сітуацыі, наяўнасць у краіне паўлегальных узброеных груповак, ніякіх гучных інцыдэнтаў у сферы бяспекі на ўкраінскіх станцыях не было. Праўда, адна справа — злачынцы, а іншая — арганізаваныя і матываваныя на максімальныя разбурэнні фанатыкі-экстрэмісты.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Калі Лукашэнка прыйшоў да ўлады, змяніўшы ліберала Шушкевіча, ён прапанаваў Расіі адзіную федэратыўную дзяржаву, адзіную банкаўскую сістэму і адзіны рубель. Нават пашпарты прапаноўвалася зрабіць адзінымі. Большага і ўявіць было немагчыма. Аднак расійскія лібералы вырашылі для сябе, што ім давядзецца дзяліцца барышамі і карміць слабую беларускую эканоміку, і зрабілі ўсё, каб як мага больш аддаліць Беларусь ад Расіі. Акрамя таго, праўду сказаць, баяліся яны — як і цяпер баяцца — магутнай постаці Лукашэнкі. З таго перыяду не былі рэалізаваны канстытуцыйна-прававыя пытанні арганізацыі Саюзнай дзяржавы. (...) Адсюль і, як часам здаецца, празмерная «самастойнасць» Бацькі.

**Russland (Расія)**

Сёння сярэдні заробак у Мінску (не беручы ў разлік усялякіх ІТ-шнікаў) складае каля 320–340 еўра. У іншых гарадах і таго менш. Крэдытныя стаўкі амаль паўсюль не ніжэй за 20–25% гадавых, а набыццё кватэр адбываецца праз чаргу і цяжкія пазыкі. Інфляцыя ў дзяржаве ўжо даўным-даўно скача ад 10–20% і вышэй, а чарговая дэнамінацыя беларускага рубля прымушае ўзгадваць пра Зімбабвэ і Веймарскую рэспубліку. Для любога эканаміста, вывучанага ў лепшых традыцыях капіталістычнага мыслення, такі расклад азначаў бы толькі адно — краіне будзе «кірдзец». А ён усё не надыходзіць і не надыходзіць. Чаму? Таму што ў Беларусі іншая мадэль развіцця. У ёй па-ранейшаму нямала так званага саўковага шалупіння, але пры гэтым у мясцовага насельніцтва маецца вельмі здаровае стаўленне да працы і вытворчасці «свайго прадукту».

**Grani (Латвія)**

Крэмль можа выкарыстаць (для атакі на Украіну) і тэрыторыю Беларусі. У Беларусі праходзяць ваенныя вучэнні. Ніхто не спытае Лукашэнку, калі палічаць патрэбным скарыстацца тэрыторыяй яго краіны для нападу.

**«Обозреватель» (Украіна)**

Ён (Лукашэнка) можа пакінуць пераемніка, але дзе гарантыі, што чыноўніцкая эліта не збярэцца і не з'есці пераемніка? Такіх гарантый няма, бо пераемнік павінен валодаць харызмай Лукашэнкі. А такіх людзей сёння ў палітыцы рэспублікі няма і не прадбачыцца. Нават сярод сілавікоў. Справа ў тым, што цяперашнія беларускія сілавікі жывуць ужо ў выбудаванай Лукашэнкам палітычнай сістэме ўлады, яны за яе не змагаліся. Яны не разумеюць, што сілавыя структуры — гэта толькі інструмент. Таму што ёсць начынне праекта, нейкая сутнасць, пры ўсіх нюансах знешнепалітычнай эквілібрыстыкі апошніх пяці-васьмі гадоў. І ад гэтага сысці нельга. А вось якім начыннем будуць насычаць праект Беларусі пасля Лукашэнкі яго пераемнікі — гэта вялікае пытанне.

**«Материк» (Расія)**

Беларусам усё ж варта прыслухацца да некаторых рэкамендацый МВФ, бо існуючая камандна-адміністрацыйная сістэма, пры якой раней дзяржава, выкарыстоўваючы спрыяльную кан'юнктуру на нафтавым рынку, магла дазволіць сабе выдаваць неэфектыўным прадпрыемствам грошы з бюджэту і ўтрымліваць войска гультаёў, ужо практычна цалкам сябе вычарпала. І чым далей беларускія ўлады будуць адмаўляцца ад рэформаў, тым складаней будзе вывесці эканоміку краіны з цяперашняга крызісу. Асабліва ва ўмовах, калі партнёры Беларусі па ЕАЭС ужо канчаткова вырашылі перабудоўваць свае мадэлі развіцця, арыентуючыся не на велізарны дзяржаўны сектар, а на прыватны бізнес. Ці разумеюць гэта сёння ў Беларусі? Пытанне даволі спрэчнае, бо ў рэспубліцы палітычныя матывы ўсё яшчэ пераважаюць над эканамічнай мэтазгоднасцю.

**«Ритмы Евразии» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ІСЛАНДЫЯ. Улада — піратам?

Вынікі апошніх сацыялагічных апытанняў сярод ісландцаў сведчаць, што ўвосень, пасля парламенцкіх выбараў, краіна можа атрымаць прэм'ера-пірата. Магчыма, Пірацкая партыя Ісландыі атрымае на бліжэйшых выбарах у парламент 18–20 месцаў з 63-х, і, такім чынам, можа нават сфармаваць урад, што будзе сенсацыяй. На першы погляд, незразумела, чаму так шмат выбаршчыкаў абіраюць партыю, якая займаецца пераважна праблемамі капірайту і змагаецца супраць камерцыялізацыі інтэрнэту. На думку экспертаў, на рэзкі рост рэйтынгаў Пірацкай партыі паўплывалі «панамскія дакументы», якія кінулі цень на прэм'ер-міністра Ісландыі. Ён патрапіўся на афшорах і вымушаны быў падаць у адстаўку. У гэтым плане не выключана, што панамскі скандал згубіць да кастрычніка, калі пройдуць выбары, актуальнасць, і выбаршчыкі прагаласуюць за традыцыйныя партыі. Так ці інакш, лідарства «піратаў» сведчыць пра расхістванне ранейшых палітычных канструкцый. Дарэчы, у выпадку перамогі «піраты» абяцаюць усім ісландцам бясплатны безлімітны інтэрнэт.

**Паводле брытанскай прэсы**

### РАСІЯ. Шойгуюгенд крочыць па краіне

У Расіі імклівымі тэмпамі ствараецца дзіцяча-юнацкая мілітарная арганізацыя «Юнармия», якую курыруе Міністэрства абароны і непасрэдна яго кіраўнік Сяргей Шойгу. Калі ў маі гэты праект быў абвешчаны, шмат хто думаў, што гаворка пра чарговы распіл бюджэту. Аднак літаральна за пару месяцаў па Расіі было створана 76 рэгіянальных секцый, сяброў якіх плануюць навучаць не толькі зборцы-разборцы аўтамата. Па словах аднаго з кіраўнікоў арганізацыі, у хуткім часе «юнармейскі рух» можа згуртаваць сотні тысяч чалавек. Юнармейцы будуць праходзіць курс маладога байца са страявой і агнявой падрыхтоўкай і вывучаць асновы тактычных дзеянняў. Першы палявы выступ ужо адбыўся. У пачатку жніўня юнармейцы прынялі ўдзел у спаборніцтвах экіпажаў радыяцыйнай, хімічнай, біялагічнай выведкі. На думку палітолагаў, «Шойгуюгенд» — гэта нешта фенаменальнае нават у параўнанні з савецкімі моладзевымі арганізацыямі. Не падобная «Юнармия» і на рух «Наши», і на іншыя пракрамлёўскія моладзевыя структуры сярэдзіны нулявых. Як канстатуе адзін са спецыялістаў, «генералы фактычна адкрыта прызнаюцца, што хочуць вучыць дзяцей ваяваць са школьнай парты».

**Паводле расійскай прэсы**

### УКРАІНА. Ці стане «капійка» рублём?

Украінскі дэпутат ад Блоку Пятра Парашэнкі Алег Мусій падаў законапраект аб перайменаванні ў краіне капейкі ў рубель. Мусій патлумачыў, што мэта — прывесці назву грашовай адзінкі да гістарычна абгрунтаванай. Маўляў, гістарычныя крыніцы кажуць, што меншай часткай грыўні быў рубель. «Прыняцце гэтага закона адновіць гістарычную справядлівасць ва ўжыванні назвы рубля як меншай часткі грашовай адзінкі ва Украіне — грыўні», — кажа Мусій. Рэформа, безумоўна, мае палітычны падтэкст, паколькі рубель так ці інакш выклікае асацыяцыю з Расіяй. Тое, што адна грыўна будзе раўняцца ста рублям, гучыць для шараговага расіяніна вельмі дзіўна, калі не абразліва. Праўда, на шляху рэалізацыі праекту ёсць адна сур'ёзная праблема: за апошні час курс грыўні да долара знізіўся. Як следства, кошты выраслі — і капейку ўсё менш выкарыстоўваюць у побыце. Замест таго, каб «хімічыць» з капейкамі, некаторыя эканамісты прапануюць грашовую рэформу.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### КУБА. Чаму Фідэль сябраваў з Франка?

90-годдзе Фідэля Кастра, якое ён адзначыў на мінулым тыдні, выклікала інтарэс да некаторых фрагментаў біяграфіі вялікага барбудас. Гаворка ў тым ліку і пра незвычайна цёплыя адносіны да Франсіска Франка, іспанскага дыктатара, які жорстка пераследаваў камуністаў. Нягледзячы на палярныя ідэалогіі, Гавана і Мадрыд мелі дыпламатычныя адносіны і гандлявалі нават у часы Карыбскага крызісу, калі практычна ўсе краіны Захаду і Лацінскай Амерыкі пад ціскам Вашынгтону адклікалі сваіх паслоў з Кубы. Можна ўзгадаць, што пасля смерці Франка на Кубе была афіцыйна абвешчаная жалоба. Пры гэтым лідар кітайскіх камуністаў Маа, які памёр праз год, такога ўшанавання не атрымаў. Існуюць некалькі версій наконт прыроды такіх сяброўскіх кантактаў. Франка, які нарадзіўся і вырас у атмасферы нацыянальнай ганьбы за прайграную Іспаніяй вайну з ЗША (1898), мог мець нейкі антыамерыканскі комплекс. Другая версія — Мадрыд баяўся, што Куба ператворыцца ў базу іспанскіх камуністаў, якія паспрабуюць арганізаваць дэсант у Іспанію і за кошт дэманстратыўна добрых адносін з Кастра хацеў перастрахавацца ад імпарту рэвалюцыі. Аднак самая цікавая версія тычыцца таго, што Франка і Кастра паходзяць з правінцыі Галісія. Яны патаемна паважалі адзін аднаго, кіруючыся мясцовым кодэксам, які патрабуе ад галісійцаў не канфліктаваць з суайчыннікамі.

**Паводле іспанскай прэсы**

# Турэцкая пятая калона

*Алег НОВІКАЎ*

**Спроба путчу ў Турцыі і рэпрэсіі супраць апазіцыі раскалолі амаль пяцімільённую турэцкую грамаду Германіі. Ці ўяўляюць прыхільнікі Эрдагана, якія пасварыўся з Захадам, пагрозу для нямецкай дзяржавы?**

«Новы Час» ужо пісаў пра шок, які выклікаў у нямецкім кіраўніцтве дэмарш так званых «рускіх немцаў», значная фракцыя якіх падтрымала інфармацыйную вайну Крамля супраць Захаду. Аднак «руская праблема» — дробязь у параўнанні з той, якую патэнцыйна ўяўляе для Германіі турэцкая.

Турэцкая грамада ў Заходняй Германіі пачала імкліва фармавацца ў 60–70-х гадах мінулага стагоддзя на хвалі эканамічнага цуду, калі ў Германіі ўзнік дэфіцыт працоўных. Праблему вырашылі за кошт турэцкіх гастарбайтэраў, якія працаўладкоўваліся галоўным чынам у будаўнічым сектары. Апынуўшыся ў заходнім грамадстве, туркі, асабліва ў другім пакаленні, усе больш прахалодна ставіліся да ідэі рэпатрыяцыі. На радзіму яны не вяртаюцца, аднак у большасці намагаюцца захоўваць турэцкія пашпарты.

Палітычнае аблічча турэцкіх немцаў вельмі стракатае. Сярод мігрантаў першай хвалі было шмат актывістаў левых партый і прафсаюзаў, якія пасля кожнага дзяржурнага перавароту ў Турцыі абавязкова забаранялі — з усімі негатыўнымі наступствамі для іх сяброў. Пасля прыходу Эрдагана да ўлады, што па часе супала з рэнесансам інтарэсу да ісламу, пачала фармавацца праслойка клерыкалаў-кансерватараў. Менавіта сярод апошніх хапае аматараў палітыкі Эрдагана, які выступае за большую ролю ісламу ў грамадска-палітычным жыцці краіны.

Натуральна, нямецкія туркі не засталіся абыякавымі да апошніх трагічных падзей на радзіме. Ужо ў ноч, калі мела месца спроба перавароту, ля пасольства Турцыі сабраўся натоўп праціўнікаў путчу. Перамога Эрдагана не паслабіла рашучасці яго фанатаў. Напачатку жніўня ў Кёльне (тут месціцца адна з самых вялікіх турэцкіх камунаў ФРГ) прайшла агульнанямецкая акцыя падтрымкі турэцкага гаранта, якая, дарэчы, сабрала больш за 20 тысяч чалавек.

Фішкай маніфестацыі мусіла стаць прамое ўключэнне з Анкары, адкуль па відэасувязі маніфестантаў збіраўся прывітаць асабіста «Султан» (мянушка Эрдагана). Аднак Берлін вырашыў падкарэктаваць праграму мерапрыемства і пункт пра тэлевізійны мост з Турцыяй запатрабаваў выдаліць. Чыноўнікі ФРГ выказалі асцярогу, што палітычная напружанасць у Турцыі можа распаўсюдзіцца на ФРГ.

Эрдагана такая выхадка Берліна раз'юшыла. Прыгадаўшы, што курдскія партызаны спакойна транслююць у Германіі свае праграмы, турэцкі гарант абвінаваціў Германію ў адсутнасці дэмакратыі.

Гэта гісторыя фактычна дала старт росту напружанасці ў адносінах паміж краінамі. Амаль дня не праходзіць, каб Берлін і Анкара не абмяняліся эмацыйнымі заявамі, часам нават пагражаючы разрывам дыпламатычных адносінаў.

Такі ход падзей спрыяў таму, што мясцовыя прыхільнікі Эрдагана пачалі крытычна ставіцца да нямецкага ўраду. Напрыклад, Саюз мусульман Германіі (DITIB), дзе большасць сябраў маюць турэцкія карані, раскрытыкаваў дэпутатаў — этнічных туркаў, якія асудзілі надаўні пераслед апазіцыі ў Турцыі. Дарэчы, туркі добра прадстаўленыя ў нямецкіх органах улады. У Бундэстагу засядаюць 11 дэпутатаў-туркаў, а Партыяй зялёных увогуле кіруе этнічны турак Джэм Оздэмір. Апошні нават заявіў, што ў Германіі ёсць пагроза стварэння турэцкага варыянту «Pegida» (вядомая нямецкая антыісламская праварадыкальная ініцыятыва).

Калі такая з'ява — варожасць туркаў да нямецкай адміністрацыі — стане тэндэнцыяй, перад Германіяй паўстане сапраўдны выклік. Фактычна ў яе тыле будзе дзейнічаць натуральная варожая пятая калона. Прычым, у адрозненне ад той жа расійскай, турэцкая грамада мае больш інстытутаў, здольных мабілізаваць і каардынаваць шырокі рух. Напрыклад, усіх імамаў у Германіі прызначаюць у Турцыі. З турэцкага бюджэту яны атрымліваюць заробак. Акрамя таго, агульнавядома, што ў краіне працуе шырокая агентура турэцкай выведкі і нацыяналістычнай арганізацыі «Шэрыя ваўкі», якія змагаюцца з курдскімі цэнтрамі. Паколькі Турцыя — краіна-сябра NATO, доўгі час нямецкія выведнікі намагаліся не заўважаць актыўнасць турэцкіх калегаў, якая, тым больш, не выходзіла за межы турэцкіх кварталаў.

Цікава, што нямецкую грамадскасць не вельмі палохае магчымасць радыкальных выступаў эрдаганаўцаў. Прынамсі, такую перспектыву нават не абмяркоўваюць. Калі гэта асяроддзе і радыкалізуецца, то яго ахвярамі стануць аднакроўныя туркі іншых палітычных поглядаў. Напрыклад, тыя, хто крытыкуе існуючы ў Анкары рэжым. У гісторыі турэцкай камуны Германіі хапае эпізодаў, калі туркі не маглі нешта падзяліць з-за палітычных забабонаў. Дарэчы, Саюз хрысціянскіх дэмакратаў ужо запатрабаваў ад ураду надаць гарантыі бяспекі для туркаў, якім не падабаецца Эрдаган.

Больш турбуе, што сімпатыі да Эрдагана могуць ускладніць працэсы інтэграцыі туркаў у нямецкі соцыум. Наяўнасць вялікага немабільнага турэцкага гета — не толькі цяжкі баласт для мясцовых і зямельных бюджэтаў, за кошт якога бясплатна вучацца і лечацца тыя ж турэцкія дзеці. Малады туркі, што не атрымліваюць адукацыю ў нямецкіх ВНУ і ізаляваны ў межах камуны, таксама выпадаюць з культурна-палітычнага ландшафту, фармуючы свой, арыгінальны, выразна нацыяналістычна-клерыкальны эрзац. Ізаляцыя фармуе ўзаемныя ксенафобскія забабоны. У дадатак тэма «турэцкіх паразітаў» — канёк прапаганды праварадыкальных агітатараў, якая, трэба прызнаць, сапраўды знаходзіць масавага адрасата.

У любым выпадку, як піша прэса, сітуацыя з нямецкімі туркамі будзе перш за ўсё залежаць ад развіцця падзей у самой Турцыі. У выпадку палітычнай эскалацыі (напрыклад, рэзкага канфлікту з Захадам), актывізуюцца і туркі ў ФРГ. Прынамсі, так кажуць нямецкія палітыкі турэцкага паходжання. Калі ж стан рэчаў на Басфоры стабілізуецца, турэцкае пытанне ў ФРГ не будзе стаяць так востра. Праўда, пакуль усё сведчыць, што сітуацыя ў Турцыі будзе развіцца па першым сцэнары.



**Калі такая з'ява — варожасць туркаў да нямецкай адміністрацыі — стане тэндэнцыяй, перад Германіяй паўстане сапраўдны выклік**




# Джыл або Хіл?

Алег НОВІКАЎ

**Намер кандыдата ад амерыканскай Партыі зялёных перацягнуць на свой бок прыхільнікаў Берні Сандэрса стварае новую інтрыгу на прэзідэнцкіх выбарах за акіянам.**

Зараз Хілары Клінтан выйшла ў бясспрэчныя лідары кампаніі. Аднак ніхто з экспертаў не рызыкуе завочна віншаваць Хілары з перамогай. І ў тым ліку таму, што ў кампаніі з'явіўся новы фактар: у Х'юстане на зборах Партыі зялёных ЗША (Green Party United States) у кандыдаты на пасаду прэзідэнта была намінаваная 66-гадовая Джыл Стэйн. На першы погляд, навіна не вартая ўвагі. Хаця Джыл (яна працуе доктарам і ў вольны час грае на барабанах у рок-гурце) мае нацыянальную рэпутацыю змагара за празрыстыя выбары і чыстае наваколле, «зялёныя» — гэта другі эшалон амерыканскай палітыкі.

Створаная ў сярэдзіне 1980-х гадоў партыя можа ганарыцца прарывамі на мясцовым узроўні, калі яе кандыдаты станавіліся мэрамі і мелі большасць у муніцыпалітэтах. Некалькі разоў «зялёныя» прарываліся ў заканадаўчыя органы штатаў. Каб атрымаць поўную карціну, дастаткова сказаць, што Джыл балатавалася ў прэзідэнты ад Партыі зялёных чатыры гады таму і атрымала тады 0,36 працэнта.

Аднак гэтым разам у зялёнага кандыдата ёсць джокер. Джыл не хавае, што арыентуецца на частку дэмакратычнага электарату, і перш за ўсё на тых, хто падтрымліваў падчас праймерыз сацыяліста Берні Сандэрса. Хаця Сандэрс згубіў шансы перамагчы Клінтан яшчэ напачатку вясны, яго фанаты змагаліся да самага фіналу. Агітаваць за Сандэрса шмат каго натхняла таксама папулярная плётка пра тое, што той пойдзе на выбары самастойна, і, магчыма, нават на базе стваранай ім новай левай партыі.

Мары засталіся марамі. Падчас канвенцыі дэмакратаў у Філадэльфіі Сандэрс заклікаў сваіх прыхільнікаў галасаваць за Хілары. Паводле статыстыкі, «здрада» была балюча ўспрынятая прыкладна 30 працэнтамі з 20 мільёнаў рэкрутаў Берні, для якіх Клінтан — сімвал несправядлівасці і карумпаванасці цяперашняй Амерыкі.

У куміры прыхільнікаў Сандэрса і набіваецца Джыл. «Для мяне гонар ісці на выбары разам, у альянсе з рухам Берні Сандэрса. Мы зялёныя Берні», — заявіла яна ў першай прамове пасля абрання ў кандыдаты. Аўдыторыя адказала: «Jill, not Hill!» (англ.: «Джыл, а не Хіл!»). Застаецца дадаць, што выбарчая праграма Партыі зялёных практычна паўтарае праграмныя сацыяльныя рэфармісцкія тэзісы Сандэрса. Хіба што да іх дадаўся пункт пра неабходнасць перавесці ўсю амерыканскую эканоміку на альтэрнатыўнае паліва да 2030-га года і абяцанне легалізаваць марыхуану.

**Барацьба паміж Джыл і Хілары за галасы прыхільнікаў Берні Сандэрса абяцае быць вельмі цікавай. Асабліва з улікам таго, што ў выбарчым штабе Джыл акапаўся Джуліян Асанж, кіраўнік праекту WikiLeaks**

Навіны з Х'юстана выклікалі сапраўдны палітычны шторм у краіне. Усе адразу ўзгадалі выбары 2000-га, калі вядомы юрыст, абаронца правоў спажыўцоў Ральф Надэр, будучы кандыдатам ад Партыі зялёных, «адкусіў» 2 працэнты ў Альберта Гора — тагачаснага прадстаўніка дэмакратаў. Гэтага якраз хапіла, каб Гор прайграў Бушу-малодшаму.

Фігура Буша-малодшага адразу выклікае непрыемныя асацыяцыі з дзвюма непапулярнымі войнамі — у Іраку і ў Афганістане, якія Злучаныя Штаты, па сутнасці, вядуць і цяпер. Менавіта на гэты аспект звяртаюць увагу прыхільнікі Клінтан, уключаючы асабіста Сандэрса, які заклікаў не паддавацца на абяцанні Джыл. Па яго словах, выбар дэмакратаў на карысць кандыдата «зялёных» павялічвае шанцы перамогі для Трампа, легіслатура якога можа абярнуцца новымі вайсковымі авантурамі. Дарэчы, Трамп сапраўды публічна падтрымаў інтарэс выбаршчыкаў да зялёнага кандыдата.

Аднак пакуль прыём экскурсаў у гісторыю працуе слаба. Прэса звярнула ўвагу, што ў Х'юстане сярод дэлегатаў Партыі зялёных бачылі каардынатараў выбарчых камандаў Сандэрса. Напрыканцы мінулага тыдня за Джыл збіралася прагаласаваць каля 5–6 працэнтаў амерыканцаў. Сама яна абяцае атрымаць не менш за 15 працэнтаў — за кошт былых тыфозі Берні. Зялёная прэса лічыць, што менавіта фурор Джыл падштурхнуў Федэральны суд прыняць у мінулую пятніцу рашэнне, якое дазваляе Камісіі па тэледэбатах кандыдатаў у прэзідэнты не запрашаць на шоў прадстаўнікоў малых партый.

Барацьба паміж Джыл і Хілары за галасы прыхільнікаў Берні Сандэрса абяцае быць вельмі цікавай. Асабліва з улікам таго, што ў выбарчым штабе Джыл акапаўся Джуліян Асанж. Той самы кіраўнік праекту WikiLeaks, які, падаецца, мае асабістую крыўду на Хілары Клінтан. Сінхронна з кангрэсам Партыі зялёных ён выкінуў у сеціва чарговы кампрамат на Клінтан. Калі верыць апублікаваным дакументам, Хілары ў свой час ледзь не асабіста дамагалася фінансавання для невялікай групы іракскіх ісламістаў, якую планавалася перакінуць на барацьбу з сірыйскім рэжымам. Дзякуючы гранту ад Хілары, тая секта здолела ператварыцца ў салідную палітычна-мілітарную арганізацыю, якая два гады таму выдала маніфест пра стварэнне «Ісламскай дзяржавы». Застаецца пабачыць, як «зліў» адлюструецца на рэйтынгах кандыдатаў.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ана Брнабіч



Прызвішча новага міністра дзяржадміністрацыі Сербіі не сыходзіць з мясцовых інфармацыйных стужак праз тое, што 40-гадовая Ана стала першым у сербскай гісторыі міністрам з нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыяй.

Сербія лічыцца адной з самых кансерватыўных краін на Балканах, і такое прызначэнне выклікала лагічную агрэсіўную рэакцыю мясцовых рэтраградаў, якіх актыўна падтрымлівае праваслаўная царква. Па словах гамафобаў, міністэрская пасада Брнабіч — зандаж грамадскай думкі. Пасля Брбаніч, маўляў, усе міністэрствы будуць перапоўненыя гомасексуалістамі і лесбіянкамі. Гучаць нават заклікі гвалтоўна вылечыць Ану ад «хваробы».

Што тычыцца прэм'ера Аляксандра Вучыча, ён тлумачыць свой выбар прафесійнымі якасцямі Брнабіч. Тая мае за плячыма вучобу ў амерыканскіх і англійскіх ВНУ, працу ў бізнесе. Цікава, што новы міністр не з'яўляецца сябрам ніводнай партыі, уключаючы ўрадавую.

Застаецца дадаць, што апазіцыя лічыць з'яўленне Брнабіч у складзе ўраду задумкай піяршчыкаў Вучыча, які намагаецца за кошт тэмы лесбіянак прыцягнуць інтарэс да свайго кабінета. Як і ў шматлікіх краінах Усходняй Еўропы, у Сербіі людзі паступова губляюць інтарэс да палітыкі.

### Пітэр Датан



Міністр па міграцыі і ахове межаў аўстралійскага ўраду прайграў судовы працэс супраць праваабаронцаў суседняй Папуа — Новай Гвінеі. Судзі Вярхоўнага суда вырашылі падтрымаць праваабаронцаў, якія патрабавалі зачыніць лагер для бежанцаў, што знаходзіцца на востраве Манус. У лагеры сядзяць каля 800 нелегалаў, якія спрабавалі прабрацца ў Аўстралію.

Паводле аўстралійскіх законаў, мігранты накіроўваюцца ў лагеры за межамі краіны, дзе вырашаецца іх лёс. Як правіла, утрымліваць такія напалову турэмныя зоны за грошы пагаджаюцца бедныя краіны Акіяніі накшталт Папуа — Новай Гвінеі. Нягледзячы на тое, што Канбера плаціць за тыя лагеры някепска, такая практыка заўжды выклікала крытыку з боку грамадскасці. Аўстралію абвінавацілі ў нявызначаным прававым статусе ўцекачоў, кепскіх умовах утрымання і г.д.

Суд пагадзіўся з аргументамі крытыкаў лагераў для мігрантаў. Самае цікавае, якія наступствы будзе мець вердыкт суддзяў не для Аўстраліі (гэта не першы падобны выпадак), а для Еўропы. Менавіта на аўстралійскі міграцыйны досвед цяпер арыентуецца Еўрасаюз з-за крызісу з Турцыяй, якая абяцала фільтраваць міграцыйны паток з Сірыі. Называюцца нават краіны, якім прапануюць размясціць лагеры для мігрантаў — Украіна, Кіргізія, Албанія... Цяжка зразумець, ці будзе гэта магчымым з-за прававога прэцэдэнту ў Папуа — Новай Гвінеі. Свае рашэнне суддзі таксама аргументавалі тым, што падобныя лагеры — гэта канвеер парушэнняў правоў чалавека.

### Дзмітрый Мядзведзеў



Прэм'ер Расійскай Федэрацыі на сустрэчы з казахстанскім калегам Карымам Масімавым паабяцаў выканаць просьбу, з якой Казахстан даўно звяртаўся да Расіі. Гаворка ідзе пра вяртанне на радзіму чэрапа Кейкі Батыра — аднаго з правадыроў сярэднеазіяцкага паўстання 1916 года, які пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі падтрымаў антысавецкае падполле.

Імя Кейкі, якога называлі казахстанскім Махно, наводзіла жах на бальшавікоў. Таму, калі ў 1923 годзе паўстанца злавілі, то вырашылі адсячы нябожчыку галаву, а чэрап даслаць кіраўніцтву казахстанскай рэспублікі. У Арэнбургу (там тады знаходзілася сталіца Казахстана) такому падарунку здзівіліся і перадалі чэрап навукоўцам. У выніку ён апынуўся ў архівах піцерскай Кунсткамеры.

Пасля таго, як Казахстан стаў незалежным, Кейкі Батыр атрымаў статус героя нацыянальна-вызвольнай барацьбы. З часам узгадалі і пра яго чэрап. Нягледзячы на тое, што гісторыя падобная на казку, у выніку пытанне чэрапа было ўзнята на афіцыйным узроўні. Яшчэ 20 гадоў таму адпаведная просьба была дасланая ў Маскву. Цяпер, нарэшце, Расія пагадзілася яе разгледзець, хаця сярод гісторыкаў і музейных архівістаў шмат скепсісу наконт таго, што ў Кунсткамеры сапраўды ёсць чэрап легендарнага казахстанскага джыгіта.

# Жнівеньскі путч

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Раніцай 19 жніўня 1991 года жыхары СССР — хто з жудасцю, а хто з задавальненнем — даведаліся пра сенсацыйную навіну. Група вышэйшых дзяржаўных і партыйных функцыянераў абвясціла пра адстаўку Міхаіла Гарбачова з пасады прэзідэнта краіны па стане здароўя, сфармавала т. зв. Дзяржаўны камітэт па надзвычайным становішчы (ДКНС) на чале з віцэ-прэзідэнтам Генадзем Янаевым.**



Мінск падчас жнівеньскіх падзей

Усадозвах «Обращение к советскому народу» і «Постановление №1 Государственного комитет по чрезвычайному положению» ад 19 жніўня 1991 года ДКНС прадставіў сваю праграму, прасякнутую матывамі рэстаўрацыі мінулага. Паводле чальцоў ДКНС, «перабудова» пацярпела крах, у краіне запанавалі страх, роспач і галеча. Найважнейшай мэтай путчысты абвясцілі ўратаванне Айчыны. Дзеля гэтай мэты забараняліся ўладныя структуры, не прадугледжаныя Канстытуцыяй СССР, прыпынялася дзейнасць палітычных партый, рухаў, аб'яднанняў, апазіцыйных КПСС, не дазваляўся выхад у свет нелаяльных СМІ. Сілавым структурам прадпісвалася падтрымліваць рэжым надзвычайнага становішча.

Далей ішлі шчодрыя абяцанкі. ДКНС дэклараваў, што выступае за «истинно демократические процессы, за последовательную политику реформ, ведущую к обновлению нашей Родины, к ее экономическому и социальному процветанию...»

У першы ж дзень путчу, згодна з рашэннем ДКНС, у Маскву былі ўведзены войскі. Аднак прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын не разгубіўся і ў той жа дзень выступіў супраць путчыстаў, расцаніўшы іх дзеянні як дзяржаўнае злачынства.

Адной з галоўных прычын правалу ДКНС была слабасць яго арганізатараў. Большасць расіян (прынамсі ў буйных гарадах) не падтрымала ДКНС, а адназначна стала на бок Барыса Ельцына. Іншы пралік путчыстаў заключаўся ў перабольшванні ўлады маскоўскага кіраўніцтва ў саюзных рэспубліках. У буйных гарадах СССР, у тым ліку і ў Мінску, прайшлі мітынгі супраць путчыстаў.

З палітычных сілаў у Вярхоўным Савеце першай рашуча выступіла супраць ДНКС, парламенцкая апазіцыя БНФ. Яна адразу прыняла заяву з асуджэннем ДКНС, расцэньваючы дзеянні арганізатараў гэтага камітэта як спробу дзяржаўнага перавароту.

А 22 жніўня 1991-га парламенцкая апазіцыя БНФ агучыла спецыяльную заяву, у якой канстатаваўся крах спробы камуністычна-ваеннага путчу ў СССР. У заяве таксама сцвярджалася, што старшыня Вярхоўнага Савета Мікалай Дзямянцей больш не мае маральнага права займаць сваю пасаду. Апазіцыя настойвала на жорсткім пакаранні тых, хто лаяльна паставіўся да путчыстаў.

## Нечарговая сесія

24 жніўня 1991-га а 12 гадзіне распачала сваю працу нечарговая пятая сесія Вярхоўнага Савета Беларускай ССР 12-га склікання. Ля Дома Ураду, дзе праходзіла сесія, стаялі тысячы людзей.

Першы намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч абвясціў парадак дня: 1) аб бягучым моманце (аб дачыненні «адказных асобаў», арганізацый і дзяржаўных структур да ДНКС; 2) аб артыкуле 72 Канстытуцыі БССР, якая прадугледжвала наданне законам БССР першачарговай сілы; 3) аб дэпартызацыі і маёмасці КПСС-КПБ; 3) аб перападпарадкаванні МУС і КДБ выключна пад юрысдыкцыю рэспублікі.

Пад націскам апазіцыі БНФ, якая дабілася таго, каб бел-чырвона-белы сцяг (яго ўнеслі дэпутаты Галіна Сямдзянава і Валянцін Голубеў) быў прымацаваны разам з Дзяржаўным сцягам БССР, у парадак дня таксама было ўключана пытанне аб наданні Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце ад 27 ліпеня 1990-га статусу канстытуцыйнага закона і асабістых дзеяннях старшыні Вярхоўнага Савета Мікалая Дзямянцея ў дні путчу.

На першы раз пытанне аб наданні Дэкларацыі статусу канстытуцыйнага закону не набрала неабходнай большасці, але літаральна праз паўгадзіны дэпутаты, узрушаны палымяна-эмацыйнай прамовай Зянона Пазьняка, які заклікаў да ўсебеларускага страйку, уключылі гэта пытанне ў павестку пасяджэння сесіі.

Большасць Вярхоўнага Савета была настроена супраць вышэйшага кіраўніцтва рэспублікі. Прычына была ў тым, што многія дэпутаты, нават тыя, хто не належалі да апазіцыі БНФ, напалохаліся праз ДКНС, чакалі хвалі рэпрэсіяў, Варфаламееўскай ночы. Дэпутат Аляксандр Лукашэнка, напрыклад, сцвярджаў, што «на заводах были заказаны тысячи наручников, в моем родном городе милиционеры потирали руки: кого они повесят в первую очередь». Дэпутат Аляксандр Сасноў 24 жніўня 1991 года пад апладысменты заявіў аб сваім выхадзе з КПСС, «которую невозможно реформировать».

Кіраўнікі рэспублікі спрабавалі апраўдвацца. Мікалай Дзямянцей сцвярджаў, што з ягонага боку аніякай падтрымкі ДКНС ніколі не было. Старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч заявіў, што «правительство занималось повседневной работой». Абвінавачванні ў падтрымцы путчыстаў адпрэчыў і камандуючы Беларускай вайсковай акругай Анатоль Кастэнка. Генерал запэўніваў парламентарыяў у тым, што «армия не стала слепым орудием в руках авантюристов», і нават прапанаваў стварыць нацыянальную гвардыю.

25 жніўня адбылася гісторыя з выступленнем партыйнага рэспубліканскага кіраўніка, народнага дэпутата СССР Анатоля Малафеева, аднаго з самых рэакцыйных прадстаўнікоў тагачаснай беларускай партнаменклатуры. Менавіта Анатоль Малафееў на аб'яднаным Пленуме ЦК і Цэнтральнай кантрольнай камісіі (ЦКК) КПСС 24–25 красавіка 1991-га першым у СССР паставіў пытанне аб увядзенні надзвычайнага становішча ў краіне, што выклікала нават абурэнне Міхаіла Гарбачова. 25 жніўня група дэпутатаў парламенцкай апазіцыі БНФ на чале з Галінай Сямдзянавай літаральна сцягнула першага сакратара ЦК КПБ з парламенцкай трыбуны і пазбавіла яго слова.

Мікалаю Дзямянцею не ўдалося ўтрымацца на сваёй пасадзе. Каб захаваць твар, старшыня Вярхоўнага Савета заявіў 25 жніўня 1991-га аб сваім сыходзе нібыта на пенсію. Большасць дэпутатаў задаволілі ягоную просьбу. Аднак на гэтым гучныя адстаўкі скончыліся. Спроба апазіцыі абвясціць недавер Прэзідыуму Вярхоўнага Савета была няўдалай.

## Незалежнасць

25 жніўня 1991-га Вярхоўны Савет прыняў рашэнні, якія зрабілі Беларусь, з аднаго боку, сапраўды незалежнай. З іншага — у гэтых рашэннях прысутнічалі пэўная дваістасць, ваганне і нават юрыдычныя хібы.

Рашэнні былі прыняты ў форме пастаноў і законаў. Пастановы называліся «Аб бягучым моманце», «Аб забеспячэнні палітычнай і эканамічнай самастойнасці Беларускай ССР», «Аб дэпартызацыі органаў дзяржаўнай улады і кіравання Беларускай ССР, дзяржаўных прадпрыемстваў, установаў, арганізацыі і ўласнасці Камуністычнай партыі Беларусі» і «Аб часовым прыпыненні дзейнасці КПСС-КПБ на тэрыторыі Беларускай ССР».

Першая пастанова прызнавала неканстытуцыйнасць і антызаконнасць ДНКС, ягоных дзеянняў і пастаноў. Разам з тым у гэтай пастанове мела месца «мяккая» крытыка Прэзідыума, які «не дал чёткой политической оценки» ДНКС.

Паводле другой пастановы, ва ўласнасць рэспублікі перадаваліся ўсе прадпрыемствы, арганізацыі і ўстановы саюзнага значэння, якія былі на яе тэрыторыі. Аднак гэта не тычылася тых, «руководство которыми передано согласно законодательству Белорусской ССР соответствующим органам Союза ССР».

Трэцяя пастанова забараняла стварэнне і дзейнасць у органах дзяржаўнай улады і ў дзяржаўных установах, прадпрыемствах і арганізацыях структураў КПБ, а таксама грамадскіх аб'яднанняў, якія маюць палітычныя мэты. Адначасова ўся партыйная ўласнасць (да спецыяльнага рашэння аб далейшым яе статусе), а таксама ўласнасць ЛКСМБ браліся пад ахову, а карыстанне ўрадавай і іншай спецсувяззю грамадскім аб'яднаннямі, якія мелі палітычныя мэты, забаранялася.

Праект чацвёртай пастановы выклікаў бурныя парламенцкія дэбаты. Апазіцыя БНФ настойвала на адназначнай забароне КПСС-КПБ. Па прапанове Станіслава Шушкевіча дэпутаты зацвердзілі кампрамісную пастанову, у якой гаворка ішла аб часовым прыпыненні дзейнасці кампартыі. Гэта было юрыдычным нонсенсам, бо тагачаснае заканадаўства Беларускай ССР прапісвала альбо ліквідацыю якога-небудзь суб'екта, то бок заканчэнне дзейнасці, альбо рэарганізацыю. Згодна з пастановай, павінны былі быць апячатаны памяшканні архіваў, сакрэтнага справаводства, тэлефоннай сувязі КПСС-КПБ і ЛКСМБ.

Разам з пастановамі Вярхоўны Савет прыняў і шэраг законаў: «Аб некаторых зменах у сістэме органаў дзяржаўнага кіравання Беларускай ССР» (саюзна-рэспубліканскія МУС і КДБ адыходзілі пад выключную юрысдыкцыю рэспублікі), «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю (Асноўны Закон) Беларускай ССР» (артыкул 72 замацоўваў прыярытэт беларускіх законаў над агульнасаюзнымі, артыкул 73 абвяшчаў тэрыторыю рэспублікі непадзельнай і недатыкальнай; змяняўся артыкул 19 «Пракуратура»: у прыватнасці, уводзілася пасада Генеральнага пракурора, які выбіраўся Вярхоўным Саветам на пяць гадоў).

Канешне, самым важным актам нечарговай пятай сесіі лічыцца закон ад 25 жніўня 1991 года «Аб наданні статуса канстытуцыйнага закона Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР». Прыняццю такога закона папярэднічалі вострыя дыскусіі. Моцным штуршком да прыняцця закона паслужылі падзеі на Украіне, якая 24 жніўня 1991 г. абвясціла аб сваёй незалежнасці. Кіеў афіцыйна заявіў, што «этот шаг предпринят, исходя из смертельной опасности, нависшей над Украиной в связи с государственным переворотом».

Украінскі фактар істотна паўплываў на дэпутатаў кансерватыўных поглядаў. Напрыклад, дэпутат Міхаіл Жэбрак, які раней даволі скептычна ставіўся да ідэі незалежнасці, заявіў: «Я до вчерашнего дня стоял за обновлённый Союз, но события



# і Дзень незалежнасці

на Украине заставляют меня сделать заявление: надо принимать этот закон или объявлять себя западным краем в составе Российской Федерации. Другого выхода нет, иначе Беларусь не будет существовать, Белоруссии абсолютно не будет».

Парламенцкая апазіцыя БНФ прапанавала даволі радыкальны праект закона, паводле якога дэнансаваўся Саюзны дагавор 30 снежня 1922 года, а ў адносінах да агульнасаюзнай уласнасці выкарыстоўваўся «нулявы» варыянт. Аднак былі прыняты «памяркоўны» праект, прапанаваны Прэзідыумам (Дэкларацыя набывала статус канстытуцыйнага закона, а ў выпадках, калі артыкулы Асноўнага Закона БССР супярэчылі палажэнням Дэкларацыі, належала кіравацца апошняй).


ЗАЯВА
народных дэпутатау БССР ад
апазіцыі Беларускага Народнага Фронту
у Вярхоуным Савеце Беларускай ССР

У ноч з 18 на 19 жніуня г.г. у Маскве шэрагам асоб, якія займаюць адказныя дзяржауныя пасты Саюза ССР, зроблена спроба дзяржаунага перавароту. Гэтая спроба парушае арт.127$^3$ п.15 дзейнай Канстытуцыі СССР і арт.12 Закона Саюза ССР "Аб прававым рэжыме надзвычайнага становішча". Згодна з гэтымі заканадаучымі актамі Прэзідэнт Саюза ССР можа абвяшчаць надзвычайнае становішча у асобных рэгіёнах СССР толькі са згоды адпаведных органау дзяржаунай улады рэспублік " у інтарэсах гарантавання бяспекі грамадзян СССР пры стыхійных бедствах, буйных аварыях або катастрофах, эпізаотыях, а таксама пры масавых беспарадках". Такім чынам, законных падставау для увядзення надзвычайнага становішча у Беларусі і СССР няма. Разам з тым, праз 10 гадзін пасля абвяшчэння надзвычайнага становішча, адсутнічае Заява Прэзідэнта СССР М.С.Гарбачова аб добраахвотным складанні свaіх паунамоцтвау і медыцынскае заключэнне аб стане яго здароу'я. У сувязі з гэтым, законным кірауніком Саюза ССР застаецца Прэзідэнт СССР, які можа быць адхілены ад сваёй пасады не менш як 2/3 галасоу ад агульнай колькасці З'езда народных дэпутатау СССР.

Здзейсненым 18-19 жніуня г.г. актам бальшавікі-камуністы яшчэ раз пацвярджаюць сваю прыхільнасць да гвалтоунага вырашэння сацыяльных і іншых праблем. Мы маем дачыненне з таталітарыцкімі прыёмамі захопу улады.

Дэпутаты ад апазіцыі у Вярхоуным Савеце Беларускай ССР заклікаюць усіх грамадзян Беларусі захоуваць арганізаванасць, вытрымку і дысцыпліну, выконваць толькі рашэнні канстытуцыйных органау улады. Заклікаем нашых выбаршчыкау праводзіць, пачынаючы з 20 жніуня, пасля 18 гадзін, сустрэчы з народнымі дэпутатамі усіх узроуняу і запатрабаваць спынення дзейнасці незаконнага "Дзяржаунага Камітэта па

- 2 -

надзвычайным становішчы" у СССР.

Мы звяртаемся да ваеннаслужачых Савецкіх Узброеных Сіл, супрацоунікау МУС і КДБ БССР з заклікам захоуваць вернасць Канстытуцыі Беларускай ССР і Саюза ССР, свайму службоваму абавязку, пазбягаць ужывання сілы і устрымацца ад падтрымкі неканстытуцыйных органау.

Апазіцыя у Вярхоуным Савеце Беларускай ССР патрабуе тэрміновага склікання надзвычайнай Сесіі ВС БССР для абмеркавання становішча, што склалася, і прыняцця неабходных мер.

1. 13-я
2. Л. Барщэўскі, 174-я акруга
3. Л. Зданевіч, 39-я акруга
4. В. Голубеў 15-я акруга
5. І. Герменчук 71-я акруга
Тюсенкор В.Д. 150 акруга
7. Ан. Трусаў 33 акруга
8. М. К. Крыжаноўскі 86 акруга
9. С. Папкоў 21 акруга
10. Я. Цумараў 10-я акруга
11. Грушавы 41-я акруга
12. Ю. Беленькі 36-я акр.
13. Л. Дзейка 62-я акр.
14. У. Новік 18-я акр.
15. У. Станкевіч 78-я
16. У. Заблоцкі 35-я
17. С. Навумчык 181-я
18. З. Пазьняк. 9-я

Заява прадстаўнікоў дэпутацкай групы БНФ аб падзеях 19–21 жніўня 1991 г.

## Часовая камісія

У сувязі са спробай дзяржаўнага перавароту рашэннем Вярхоўнага Савета 25 жніўня была створана Часовая камісія па ацэнцы дзеянняў чальцоў ДКНС і грамадска-палітычных аб'яднанняў, органаў дзяржаўнай улады, службовых асобаў і грамадзянаў, якія падтрымалі ДКНС.

На сем вакантных месцаў (паводле словаў старшыні камісіі Вярхоўнага Савета па заканадаўстве Дзмітрыя Булахава, камісія не павінна была ператварыцца ў Камітэт народнага кантролю) прэтэндавалі 16 чалавек. Чальцамі камісіі сталі наступныя дэпутаты: Ігар Пырх, Аляксей Даўлюд, Леанід Звераў, Міхаіл Марыніч, Міхаіл Васілеўскі, Мікалай Сцепаненка, Павел Папоў. Менавіта яны набралі большасць галасоў. Па логіцы, узначаліць камісію павінен быў Аляксей Даўлюд, які атрымаў найбольшую — 206 — колькасць галасоў. Аднак ён узяў самаадвод, а старшынёй камісіі стаў прадстаўнік БНФ Ігар Пырх, за якога прагаласавала меншасць — 151 — дэпутатаў, але які меў багаты вопыт працы ў кампетэнтных органах, у прыватнасці, начальнікам аддзела аховы грамадскага парадку ўпраўлення ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкама.

27 жніўня Прэзідыум Вярхоўнага Савета зацвердзіў спецыяльную пастанову аб часовай камісіі, якая атрымлівала даволі шырокія паўнамоцтвы: мела права «привлекать народных депутатов всех уровней, специалистов, должностных лиц и граждан» (за час існавання камісіі да яе працы былі дадаткова прыцягнуты 25 чалавек), а таксама «незамедлительного доступа к документам любой важности и секретности всех государственных и общественных органов, организаций и учреждений, расположенных на территории республики». Акрамя таго, службовыя асобы павінны былі ўсяляк дапамагаць камісіі, забяспечваць яе чальцоў транспартам.

На шчасце, у фондах Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь захавалася багатая спадчына дзейнасці камісіі: пратаколы пасяджэнняў, рознага роду даведкі і тлумачальныя запіскі, акты, рашэнні, перапіска. Як вынікае з архіваў, першае пасяджэнне камісіі адбылося 5 верасня, сама камісія канчаткова скончыла працу 17 снежня 1991-га. Усяго адбылося дзесяць пасяджэнняў камісіі.

На першым пасяджэнні 5 верасня была пастаўлена наступная задача камісіі: «Дать политическую оценку той тоталитарной системе, которая поддержала путч, организовать работу на местах, по всем областям создать рабочие группы и привлекать общественные организации и представителей разных партий, депутатов. Изучить позицию руководящих работников, проверить все горисполкомы области, все газеты и УВД. Для более слаженной работы в каждой группе должен присутствовать работник прокуратуры».

## Усё кіраўніцтва падтрымала путч

З першых дзён сваёй працы камісія сутыкнулася з вялікімі цяжкасцямі, адкрытымі варожымі адносінамі, асабліва з боку мясцовых уладаў і праваахоўных органаў. Істотныя паўнамоцтвы камісіі аказаліся толькі на паперы: яе чальцам вельмі часта проста адмаўлялі ў доступе да неабходнай інфармацыі. Да таго ж шмат хто з прыцягнутых, асабліва на месцах, выкарыстоўваў камісію да звядзення асабістых рахункаў з начальствам.

Тым не менш, 16 лістапада 1991-га з'явілася выніковая справаздача камісіі. Яна складалася з наступных раздзелаў: «Общая оценка обстановки в стране», «О ситуации, сложившейся в Республике Беларусь», «События, предшествующие путчу», «Выводы» і «Предложения».

У якасці адной з галоўных прычынаў магчымасці путчу ў справаздачы выступалі «жёсткое подчинение центру основных элементов государственного устройства, приоритет ведомственных нормативных актов над законодательством», а таксама «отсутствие упреждающих мер со стороны Верховного Совета и правительства».

У справаздачы практычна ўсё вышэйшае дзяржаўнае, партыйнае і вайсковае кіраўніцтва Беларусі абвінавачвалася ў падтрымцы путчыстаў або ў лаяльным стаўленні да іх: «Три августовских дня дня можно считать лакмусовой бумажкой, которая проявила истинную расстановку политических сил в республике, помогла снять маски с руководителей, на словах радеющих за демократию, но хранящих за пазухой увесистый булыжник».

Абвінавачванні, у прыватнасці, тычыліся Прэзідыума і асабіста намесніка старшыні Вярхоўнага Савета Васіля Шаладонава, якому прыпісвалі фразу: «Я верю Янаеву».

Па звестках камісіі, намеснік міністра ўнутраных спраў Канстанцін Платонаў падпісаў загад аб узбраенні баявых падраздзяленняў аўтаматычнай зброяй і спецсродкамі. МУС таксама абвінавачвалася ў тым, што ўвесь час збірала аператыўныя зводкі ў дні путчу, «фиксировало каждый случай выступления демократических сил против диктатуры».

У распараджэнні камісіі аказалася агульнасаюзная шыфртэлеграма, якая ў дні путчу паступіла ў штаб Беларускай вайсковай акругі: «Не допустить проникновения агитаторов и подстрекателей на территории воинских частей, учреждений и на корабли, максимально использовать все средства и методы работы про разъяснению правильности проводимых ГКЧП мер». Анатоль Кастэнка паставіў на ёй асабістую рэзалюцыю наступнага зместу: «Принять меры, организовать работу с личным составом по разъяснению ситуации (чрезвычайное положение введено в целях преодоления глубокого и всесторонного кризиса, межнациональной и гражданской конфронтации)».

Падтрымка путчыстаў інкрымінавалася не толькі цэнтральным, але і мясцовым органам улады. Як вынікала са справаздачы, толькі пяць гарадоў Беларусі — Орша, Пінск, Гомель, Наваполацк, Салігорск — катэгарычна не падтрымалі ДКНС. Астатнія гарсаветы не выказалі досыць ясна сваю пазіцыю альбо праявілі лаяльнасць да путчыстаў. Напрыклад, камісія настолькі націснула на старшыню Мазырскага гарадскога Савета Івана Замулку, што той вымушаны быў звярнуцца па абарону да Станіслава Шушкевіча.

## СМІ таксама здрадзілі

Асаблівая ўвага ў справаздачы надавалася сродкам масавай інфармацыі. Высновы расследавання былі не на карысць апошніх. У прыватнасці, у справаздачы ішла гаворка пра тое, што «большая часть газет продолжала оставаться под контролем партии и выполняла социальный заказ». Газеты, гаварылася ў справаздачы, альбо стварылі вобраз ворага ў асобе БНФ, альбо («Знамя юности») былі наогул забароненыя. У справаздачы падаваліся факты наконт праверкі 91 газеты, 83 з якіх «поддержали путч, используя приёмы фальсификации».

Абвінавачванні былі накіраваны супраць Дзяржтэлерадыё БССР і Беларускага тэлеграфнага агенства, якія ў тыя драматычныя дні «не передали ни одного альтернативного, отличного от ГКЧП материала, осуществив тем самым информационную блокаду Беларуси». Так, па факце закрыцця 20 жніўня 1991-га папулярнай праграмы «Радыёфакт» у справаздачы Камісіі гаварылася, што «передача была оформлена ритмичной музыкой и по своему оформлению не соответствовала происходящим в стране событиям». Дзяржтэлерадыё, акрамя таго, з боку камісіі закідаліся «отсутствие чётких гражданских позиций», наяўнасць «приспособленчества и непрофессионализма».

Увогуле, канстатавалася ў справаздачы, «беспринципные журналисты немало сделали для подготовки общественного мнения к необходимости "твёрдой руки", к оправданию любых эксцессов, в том числе и неконституционных».

У справаздачы прапаноўвалася «обеспечить условия для реального суверенитета, децентрализировать до разумных пределов аппарат управления и сократить его численность», а ў новай Канстытуцыі зацвердзіць нормы, «запрещающие формировать непредусмотренные в ней органный государственной власти и управления», таксама «разработать систему правовых мер по недопущению впредь появления партий непарламентского (тоталитарного) типа и сращивания партийных и государственных структур».

## Адхіліць ад пасад

Асобным пунктам у справаздачы стаяла пытанне аб адхіленні са сваіх пасадаў лаяльных путчыстам службовых асобаў: «После провала путча воцарилась обстановка вопиющей несправедливости в отношении тех, кто отказался подчиниться преступным замыслам ГКЧП, осудил их и оказался гонимым, а также в отношении тех, кто поддержал путч, и, занимая ключевые позиции в государственном и общественном управлении, получил право решать судьбы людей».

Пункт №13 «Предложений» справаздачы прапаноўваў вызваліць ад пасадаў Анатоля Кастэнку, начальніка штаба Беларускай вайсковай акругі Паўла Казлоўскага, начальніка ўпраўлення Савета Міністраў па пытаннях правоў грамадзянаў, грамадскай бяспекі і абароннай працы Генадзя Данілава, міністра юстыцыі Леаніда Дашука, а таксама іншых службовых асобаў і галоўных рэдактараў выданняў.

Не ўсе чальцы камісіі былі цалкам згодны з яе справаздачай. Так, Міхаіл Марыніч падпісаў справаздачу з «особым мнением»: «Убрать пункт 13 о снятии с должностей, так как комиссия не смогла в полном объёме исследовать конкретные факты участия должностных лиц в антиконституционных действиях на территории Республики Беларусь. Это может только суд. Предлагая освобождение от занимаемых должностей, Временная комиссия входит в противоречие с Конституцией, создаёт прецедент расправы по субъективным мотивам».

Таксама з агаворкамі дакумент падпісалі Павел Папоў («кроме пункта 13») і Мікалай Сцепаненка («кроме пункта 13, хотя можно было бы рассмотреть вопрос об ответственности А. Костенко и Г. Данилова»).

Ніхто з асоб, пералічаных у п. 13, па выніках справаздачы не быў звольнены.

# Партызанскія сакрэты

Алег ГРУШЭЦКІ

**Амаль скончыліся здымкі новай беларускай камедыі «PARTY-zan фільм» сцэнарыста і рэжысёра Андрэя Курэйчыка.**

Яшчэ адна беларуская стужка пра вайну? Не. І не пра вайну, і не пра партызанаў у беларускіх балотах.

Стужка збольшага рускамоўная, але характэрна, што ў беларускіх фільмах Андрэя Курэйчыка заўсёды ёсць беларуская мова. У «ГараШы» — Багдановіч, у «Вышэй за неба» — Вінсэнт, які размаўляў толькі па-беларуску. І тут будзе герой, які гаворыць па-беларуску. Беларускай мовы будзе няшмат, але яна будзе абавязкова ў адным з эпізодаў, адлюстроўваючы рэальную сітуацыю з моваю ў Беларусі.

Фільм распавядае пра траіх маладых авантурыстаў, якія мараць хутка і лёгка разбагацець. Іранічны погляд на беларускі фільммейкінг як на фабрыку па вытворчасці кіно пра вайну.

Героі фільму — маладыя праграміст, бізнесмен і дзяўчына. Два сябры, як і многія іх аднагодкі, вырашаюць разбагацець. І грошы ім патрэбны адразу і шмат. Пры гэтым яны не прыдумляюць нічога лепшага, як назваццa беларускімі кінапрадзюсарамі і ўзяцца зняць для маскоўскай кінагрупы некалькі ваенных сцэн.

Здымкі праходзілі ў Мінску, Брэсце і паміж Мінскам і Брэстам. Увойдуць у стужку і кадры здымак фільма пра Брэсцкую крэпасць, рэканструкцыя абароны 22 чэрвеня 1941 года, якую Андрэй Курэйчык наведаў сёлета.

Герояў для праекта шукалі некалькі месяцаў. Галоўныя ролі выканаюць узыходзячыя зоркі беларускага тэатра і кіно: Аляксандр Душачкін (у ролі Дзяніса, IT-шніка), Аляксандр Тарасаў (Аляксей, бізнесмен), Аліса Аўчыннік (Марта, дзяўчына з Брэста).



Андрэй Курэйчык з кампазітарам і сапрадзюсарам Дзмітрыем Фрыгам

Чаму такая назва фільма? Як кажа з пэўным жартам сам Андрэй Курэйчык, партызанскае існаванне, уласцівае беларусам цягам стагоддзяў, мае і культурны кантэкст. І для творчай групы фільма рабіць незалежнае кіно — гэта таксама пэўная культурная партызаншчына.

Апроч таго, назва стужкі не выпадкова толькі сугучная з партызанамі, насамрэч перакладаецца як «Вечарынка-фільм» («party», англ. — «вечарынка, тусоўка») і хутчэй будзе нагадваць «Хлапечнік у Вегасе», ці, лепш сказаць — у Брэсце. З аднаго боку, гэта будзе прыгодніцкая камедыя, з іншага — даследаванне нашай культурнай прасторы: чаму мы збольшага з'яўляемся кінабазай для расіян і самі здымаем вельмі мала, хаця і маем патэнцыял.

Фільм стане іранічным люстэркам нашай сучаснасці 2016 года, аднак без усякага палітычнага падтэксту. Бюджэт фільма пакуль не вядомы, але будзе ў 2–2,5 разы большы, чым у папярэдняй карціны «ГараШ», на стварэнне якой сышло менш за 5 тысяч долараў. Пры гэтым каманда ставіць перад сабой задачы дабіцца не камерцыйнага поспеху. Для яе больш важна прывабіць гледача, каб хоць нейкія беларускія фільмы час ад часу прыцягвалі беларускага гледача ў кінатэатры.

Прэзентацыя трэйлера запланавана на 15 лістапада 2016 года. Пракат фільма запланаваны пад Новы год, з 29 снежня 2016 года.



КВИТАНЦИЯ

ИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)
Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926
(фамилия, имя, отчество, адрес)
Вид платежа | Дата | Сумма
Период подписки указывает абонент
Плательщик
Пеня
Кассир
Всего

# Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма час і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але падпісацца на «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанаваць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём)

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл., код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Падпісацца таксама можна ў нашым офісе, а таксама ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда; (8029) 666 45 29 Анатоль
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **3 рублі 20 капеек**, **квартала — 9 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 803

Падпісана да друку 19.08.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.